# ЗЬМЕСТ.



Заказ № 1149. У ліку 1500 экз. Галоўлітбел № 501.
1-ая Друкарня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.

IV год выданьня    Студзень 1928 г.    № 1

## Тры гады працы.

I.

Наша часопісь пачынае чацьверты год сваёй працы. Ужо прайшло тры гады, як „Плуг“ распачаў пашырэньне асноў зямельнай і сельскагаспадарчай палітыкі Савецкай улады сярод шырокіх мас сялянства, стаў дапамагаць тысячам сялянскіх гаспадарак будаваць новую вёску на соцыялістычных падставах. Праца вельмі адказная і цяжкая. Цяжкая асабліва таму, што старыя формы гаспадараньня ў нашага селяніна трымаліся цэлымі дзесяткамі гадоў, да іх ён прызвычаіўся, а аб новых способах вядзеньня гаспадаркі (напрыклад, пра шматпольле, пасеў траў і караньплодаў, ужываньне мінэральных парашкоў) амаль нічога ня ведаў і сам перайці ня мог.

Толькі цэлая сыстэма мерапрыемстваў Савецкай улады па адбудове сельскай гаспадаркі выразна патрабавала зьмен у старой трохпалёвай гаспадарцы. Само сабой зразумела, што пры гэтым для кожнага гаспадара паўставала пытаньне, як-жа ўсё гэта зрабіць, як перайці да новых форм гаспадараньня нават без парады агранома. Вось тут селянін і зьвязваўся з нашай часопісьсю, пачынаў яе чытаць, рабіць нейкія спробы новага ў гаспадарцы, пачынаў цікавіцца с.-г. выстаўкаю, курсамі, с.-г. гуртком і ўсё, што можна было пераносіў у гаспадарку.

З кожным годам гаспадарка ў такога селяніна ўводзіла што-небудзь новае—канюшыну, караньплоды, сэрадэлю, лубін на ўгнаеньне, торф на подсьціл і кампост і г. д. Пры гэтым селянін зьвязваўся з коопэрацыяй, малочнай арцельлю і станавіўся больш-менш культурным гаспадаром. Асабліва гэта цікава ў маладых гаспадароў, якія і гаспадарку пачалі весьці толькі дзякуючы Рэвалюцыі, бо раней ня мелі зямлі *).

Розныя тэмы ставіць часопісь перад сваімі чытачамі. У першы год працы ўсе тэмы падзяляліся на 9 аддзелаў, а ў мінулым годзе іх было ўжо 13. Галоўная ўвага зьвярталася на палепшаныя прыёмы тэхнікі сельскай гаспадаркі, яе організацыю, пашырэньне найбольш інтэнсыўных галін і культур, выяўляліся дасягненьні ў сельскай гаспадарцы, популярызаваліся мерапрыемствы Савецкай улады і прынцыпы соцыялістычнага земляробства.

Усяго за тры гады было выдрукована 910 артыкулаў. Агульны тыраж „Плуга“ за гэты час складае 174.750 экз.

---

*) Напрыклад, селянін Янка Судак (Лебядзёўка, Кармянскага раёну).



Сярэдні тыраж на кожны нумар быў

| 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
| --- | --- | --- |
| 4.700 | 7.295 | 3.925 экз. |

Шмат якія зямельныя працаўнікі, спэцыялістыя, дасьледчыкі, аграномы і прафэсары маглі падзяліцца вынікамі сваёй навуковай ці практычнай працы з сялянствам самых глухіх куткоў БССР. Дванаццаць раз у год, як ніводны аграном, „Плуг“ акуратна наведваў кожную вёску і кожную сялянскую хату, калі яна гэтага жадала. Было шмат выпадкаў, калі адзін нумар „Плуга“ абыходзіў усе хаты вёскі альбо чытаўся перад сходам сялян.

Такім чынам, наша часопісь як-бы падрыхтоўвае глебу для агранома, заходзячы першай у хату-чытальню, с.-г. гурток, на аграпункт, к селяніну-культурніку, шматпольніку, у вясковую школу і г. д. Шмат якія артыкулы „Плуга“ цалкам перанесены ў нашы школьныя хрыстаматыі, с.-г. зборнікі, перадрукоўваюцца ў Заходняй Беларусі *).

Часопісі ўжо ўдалося шмат чаго дасягнуць у выяўленьні расьцярушанага шматгадовага сялянскага вопыта. На працягу двух апошніх год на старонках "Плуга" сыстэматычна друкаваліся вынікі працы сялян-дасьледчыкаў, якія праз увесь час знаходзілі сабе ў „Плугу“ і належнае кіраўніцтва іх працаю. Такім чынам, нашай часопісі ўпяршыню ўдалося распачаць гуртаваньне сялян-дасьледчыкаў, **) гэтых найбольш здольных наватараў у перабудове сельскай гаспадаркі. З сярэдзіны 1927 г. гэта праца з сялянамі-дасьледчыкамі вылілася ў Інстытут сялян-дасьледчыкаў, які працуе пад кіраўніцтвам Навукова-Дасьледчага Інстытута імя Леніна і налічвае зараз звыш 600 сялян-дасьледчыкау.

II.

У далейшай працы (чацьвертым годзе) нашай часопісі прыдзецца толькі паглыбляць ужо пачатую раней працу. Перш неабходна, наколькі мажліва, зьнішчыць свае недахопы, як сялянскай с.-г. часопісі. А гэта цяпер зрабіць прасьцей, бо з канца 1927 г. распачала працу другая навукова-агранамічная часопісь—„Сельская і Лясная Гаспадарка“, якая выдаецца Н.-Д. Інстытутам імя Леніна і якая разьлічана на спэцыялістых і зямельных працаўнікоў БССР.

Такім чынам, нашай часопісі прыдзецца яшчэ шырэй ахопліваць сялянскага чытача. Паляпшаючы зьмест, патрэбна будзе вельмі ўпарта дабівацца і большага пашырэньня часопісі, росту яе тыража. Абедзьве гэтыя задачы вельмі сур'ёзны. Але іх трэба ставіць. Трэба дабіцца таго, каб кожны пісьменны селянін у сваёй працы карыстаўся с.-г. кнігаю, як сродкам вытворчасьці, напрыклад, плугам, насеньнем і інш. У гэтым разе яму будзе лягчэй паляпшаць сваю гаспадарку.

З боку палепшаньня зьместу трэба ўскладаць больш надзей на ўсіх нашых прафэсароў, дасьледчыкаў, спэцыялістых і аграномаў, што яны могуць даць шмат карыснага селяніну ў яго працы.

Няхай будзе дазволена тут сказаць, што ня здарыцца нічога надзвычайнага, калі-б кожны наш прафэсар і спэцыяліст па сельскай

*) Гл. часопісь „Саха“ за 1927 г., Вільня.

**) Гл. С. М. Тупяневіч—„Сялянскі с.-г. досьлед на БССР, Менск, 1927 г.

і лясной гаспадарцы палічыў-бы за свой маральны абавязак толькі раз у год з лепшымі сваімі думкамі выступіць перад працоўным сялянствам праз часопісь „Плуг“ і газэту „Беларуская Вёска“, а ня толькі ў акадэмічных выданьнях. Думаецца, што гэта вельмі простая справа, а для новай культуры савецкай вёскі яна зьявілася-б вялікім падарункам. Шмат спэцыялістых і прафэсароў ужо сталі на гэты шлях. Іх думкі ведае кожны чытач „Плуга“ і што-небудзь праводзіць у жыцьцё.

Па-другое, ня менш клопату і з пашырэньнем часопісі. За апошні год нашы зямельныя і агранамічныя працаўнікі клапаціліся менш аб пашырэньні „Плуга“ быццам таму, што кожнаму гэта часопісь вядома і кожны яе выпісвае. Але гэта далёка ня так. Ёсьць шмат хат-чытальняў, с.-г. гурткоў, якія ня маюць „Плуга“. Таксама зусім ня выпісваюць „Плуг“ і карыстаюцца выпадковымі нумарамі Рабачкомы Лясьніцтваў, нізавая сетка с.-г. коопэрацыі і вясковыя школы, дзе трэба праводзіць с.-г. ухіл у навучаньні.

К вялікаму жалю „Плуг“ не заўсёды пападае на с.-г. курсы сялян. на выстаўкі, як прэмія і г. д.

Выдаць кнігу—гэта толькі палова справы, бо яе трэба яшчэ пашырыць; асабліва цяжка пашыраць кнігу сярод сялян.

Вось чаму можна спадзявацца, што ўсе зямельныя коопэрацыйныя і агранамічныя працаўнікі, а таксама зямельныя ўстановы і розныя організацыі ў наступным годзе дапамогуць самаму шырокаму пашырэньню нашай часопісі і праніка081ньню яе ў самыя далёкія і глухія куткі нашай земляробскай вёскі.

Т. т. вучастковыя аграномы добра ведаюць, што ня кожны селянін-дасьледчык, культурнік, шматпольнік, пасялковец выпісвае „Плуг“, а ён мог-бы быць карысным кожнаму з іх. Трэба выкарыстоўваць кожны выпадак, каб пашыраць сялянскую газэту, часопісь. Усюды, дзе застане аграном часопісь, там яго ўласная праца дасьць большы вынік.

Толькі пры агульнай працы і падтрыманьні нашай часопісі яна зможа і далей праводзіць цяжкую і адказную працу пашырэньня сярод новых тысяч сялян культурныя прыёмы гаспадараньня і перабудову сельскай гаспадаркі для стварэньня соцыялістычнага земляробства.

---




## Да гадавіны часопісі „Плуг“.

Прайшло тры гады з таго часу, як с-г. часопісь „Плуг“ пачала сваю працу. У Савецкай Беларусі часопісь „Плуг“ зьявілася першай часопісьсю, якая панесла навукова-агранамічныя веды ў гушчы сялянства. Друкуючы на сваіх старонках у папулярнай форме вынікі працы дасьледчых станцый і перадавога сялянства, а таксама даючы сялянству практычныя саветы ў яго гаспадарчым жыцьці, часопісь „Плуг“ шмат дапамагла сялянству ў палепшаньні сельскай гаспадаркі і спрыяла гаспадарчаму і культурнаму ўздыму вёскі. Дзякуючы гэтаму часопісь „Плуг“ сабрала шмат чытачоў, шмат селькораў, стварыла сабе на вёсцы вялікі аўтарытэт і зьявілася кіруючай для шырокіх мас сялянства ў іх штодзённай працы. Акрамя гэтага часопісь „Плуг“ зьявілася арганізатарам сялянства на грунце навуковага досьледу. Гэта праца ёсьць найкаштоўнейшая праца.

Да гэтага часу яна выявіла і арганізавала 41 селяніна-дасьледчыка, даючы ім належную дапамогу і кіраўніцтва. Сяляне-дасьледчыкі „Плуга“ цяпер увайшлі ў Інстытут сялян-дасьледчыкаў, арганізацыя якога ў некаторай частцы зьвязана з вынікамі трохгадовай працы „Плуга“.

Інстытут сялян-дасьледчыкаў к гэтаму часу яднае 450 сялян-дасьледчыкаў. Пры чым неабходна адзначыць, што ў гэтым ліку сяляне-дасьледчыкі „Плуга“ зьяўляюцца аднымі з лепшых дасьледчыкаў. Яшчэ ў мінулым годзе часопісь „Плуг“ адчыніла цэлы аддзел „Сялянскі досьлед“, а ў сучасны момант дала згоду і праводзіць „Сельска-гаспадарчыя курсы для сялян-дасьледчыкаў“.

Бюро сялян-дасьледчыкаў пры Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытуце імя Леніна ад імя 450 сялян-дасьледчыкаў выказвае надзею, што часопісь „Плуг“ і ў далейшым зьявіцца арганізатарам перадавога сялянства, а таксама Бюро можа запэўніць, што сяляне-дасьледчыкі прымуць шчыры ўдзел у працы „Плуга“, друкуючы вынікі сваей дасьледчай працы.

**Бюро сялян-дасьледчыкаў.**

---

## Ліст селяніна Янкі Судака.

Да дню трэцяй гадавіны існаваньня часопісі „Плуг“ я, як падпісчык, шлю шчырае прывітаньне за тое, што за такі кароткі час свайго існаваньня „Плуг“ здолеў так шырока разгарнуць сваю працу ў дапамозе па падняцьцю сельскае гаспадаркі, па ўнядрэньню паміж сялян сельска-гаспадарчых ведаў, а таксама і па падняцьцю сельска-

гаспадарчага культурнага ўзроўню. З часопісі мы даведаліся, як пабудаваць хлеў, кармушку, хату і наогул двор, як увясьці шматпольле, травасеяньне, кораньплоды, пасадзіць сад, гарод; даведаліся шмат чаго па жывёлагадоулі, мэліорацыі, коопэрацыі, лесаводзтву, наогул палеводзтву і іншых галінах часопісь „Плуг“ дала нам настаўленьні і парады.

За што-б ні ўзяўся ў сельскай гаспадарцы, усюды мы бачым падмогу „Плуга“. Гэта-ж не сакрэт кожнаму падпісчыку і чытачу „Плуга“, што калі возьмешся за часопісь „Плуг“, дык „Плуг“ бярэцца за цябе ў некалькі разоў мацней; вядома, гэта датычыцца сялян гаспадароў, якія хочуць і стараюцца пабудаваць сваю гаспадарку культурнай і прыбытковай.

Таварышы сяляне-чытачы, старыя падпісчыкі, давайце мы паглядзім назад: што мы ведалі па сельскай гаспадарцы і што мы ведаем цяпер. Мы ўбачым, што мы ўжо пайшлі далёка ўперад і старыя дзедаўскія спосабы гаспадараньня пачынаем забываць. А багата ёсьць і такіх гаспадароў, якія іх ужо забылі і свае гаспадаркі перабудавалі на новы лад. А ва ўсім гэтым, поруч з іншымі с.-г. выданьнямі, узяў прымаючы самы актыўны ўдзел—„Плуг“.

Часопісь „Плуг“—кніжка вельмі добрая, друкуецца выразна і на зразумелай мове. Вось толькі мы падпісчыкі дрэнныя, што ня прымаем актыўнага ўдзелу ў пашырэньні часопісі. Бяз нашага актыўнага ўдзелу ў павялічэньні тыражу, зьмяншаць кошт падпісной платы і пашырацца „Плугу“ цяжка, а таму, нам падпісчыкам неабходна ўзяцца за распаўсюджаньне часопісі „Плуг“ сярод сялян. У гэтым годзе кожны падпісчык павінен даць яшчэ хоць аднаго падпісчыка гэта — наш абавязак.

Няхай жыве і пашыраецца часопісь „Плуг“.

Селянін **Янка Судак**.

---

# Да трохгодзьдзя часопісі „Плуг“.

Тры гады існаваньня часопісі „Плуг“, тры гады распаўсюджваньня культурнага вадзеньня сельскай гаспадаркі на абшарах нашай Беларусі. За тры гады часопісь „Плуг“ здолела вакол сябе сабраць значны лік сялян-дасьледчыкаў і зацікавіць чытача. Часопісь „Плуг“ стала на той шлях, які вядзе адсталую сялянскую гаспадарку да больш даходнай і культурнай. Па свайму зьместу яна вельмі зразумела і карысна гаспадару нават малапісьменнаму.

Часопісь унесла шмат чаго новага, цікавага ў сельскую гаспадарку; яна шмат каго навучыла выбраць шматпольны севазварот, карміць жывёлу, будаваць цёплыя хлявы, лепш апрацоўваць глебу і ўгнойваць яе штучнымі ўгнаеньнямі. На далейшы час пажадана, каб часопісь „Плуг“ больш разгортвала і паглыбляла працу сярод сялян-дасьледчыкаў, якія павінны зьявіцца асяродкам вёскі, высьвятляць у часопісі найноўшыя дасягненьні замежных краін і нашай старонкі па ўсіх галінах гаспадаркі ў сувязі з тым, што актыўнасьць селяніна расьце. Вялікае дзякуй часопісі, што яна навучыла, як змагацца з цемрай і паказала, як культурна весьці гаспадарку. У сваёй гаспадарцы за тры гады, дзякуючы часопісі я шмат чаго зрабіў новага.

Няхай жыве часопісь „Плуг“. Селянін **Крупенін**.

---

## Ліст селяніна А. Радзевіча.

Будучы чытачом нашай сельска-гаспадарчай часопісі „Плуг“, выказваю вялікае сялянскае дзякуй за ўсе тыя дарады, з якімі „Плуг“ прыходзіць у вёску. Дзякуючы яму я рашыў прыняць захады дастаць належнага насеньня жыта, каб урэшце пераканацца, што хлеб магчыма есьці ня толькі з мятлічкай і гірсаю, а зусім чысты і добры. Дастаў насеньня з Балотнае станцыі, разьвёў і вось ем хлеб белы, чысты смачны, які мо‘ раней елі толькі вялікія паны.

Вітаю рэдакцыю з трохгодзьдзем існаваньня часопісі, жадаю ёй надалей пашыраць веды ва ўсе глухія куткі Беларусі.

Селянін **А. Радзевіч.**

---

## Мае пажаданьні „Плугу“.

Вельмі добра, што рэдакцыя часопісі „Плуг“ арганізуе на старонках часопісі с.-г. курсы, з якіх шмат сялян змогуць здабыць веды, як вясьці досьледы па сельскай гаспадарцы. Уступаючы ў чацьверты год выданьня часопісі, мае пажаданьні прасунуцца ёй у кожную вёску і к кожнаму селяніну, які толькі клапоціцца, каб палепшыць сваю гаспадарку і мець ад яе вялікі прыбытак.

Я пажадаю і спадзяюся, што на 4-ты год свайго існаваньня „Плуг“ будзе мець сярод сялян яшчэ большую пашану і яны (сяляне) зразумеюць яго карысць у нашай штодзённай працы ў гаспадарцы.

Селянін **А. Кірчэўскі.**

(в. Новая Серабранка, Рагачоўск. р.).

---

## Што даў „Плуг“ лясной гаспадарцы за тры гады свайго існаваньня.

Калі азірнуцца назад і паглядзець, колькі прасунуў „Плуг“ за сваё існаваньне ў сялянскія гушчы папулярных ведаў аб лясной гаспадарцы; дык маем вельмі цікавыя вынікі і лічбы.

Усяго па лясной гаспадарцы зьмешчана было 60 артыкулаў, з якіх у 1925 г.—10, у 1926 г.—17 і ў 1927 г.—33.

Па свайму зьместу і характару артыкулы закранулі такія галіны лясных навук і ведаў:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Лясная прапаганда („Дзень Лесу“ і інш.) | 9 | артыкулаў |
| 2. Лясная палітыка і законы (аб водпуску лесу і інш.) | 10 | „ |
| 3. Спэцыяльна аб лясох мясцовага значэньня | 7 | „ |
| 4. Лясная эканоміка і статыстыка | 5 | „ |
| 5. Аб лясным насеньні, лесагадоўлі; дагляд за лесам і высечка | 11 | „ |
| 6. Лесакарыстаньне і лясныя промыслы | 8 | „ |
| 7. Барацьба з пажарамі | 3 | „ |
| 8. Ворагі лесу і барацьба з імі | 2 | „ |
| 9. Замацаваньне лятучых пяскоў | 2 | „ |
| 10. Агульных | 3 | „ |
| Усяго | 60 | артыкулаў |

Гэтыя артыкулы былі напісаны: сялянамі—7 арт., супрацоўнікамі лясьніцтваў іляснымі спэцыялістымі—30 арт., спэцыялістымі і інспэктарамі Ляснога Кіраўніцтва—15 арт., прафэсарамі і навуковымі супр.—8.

Усе артыкулы надрукаваны ў папулярнай, даступнай масаваму чытачу-селяніну форме і маюць практычны характар.

Важна адзначыць, што ўдзел у працы часопісі па лясной гаспадарцы прымаюць таксама і сяляне (7 арт.), што сьведчыць аб зацікаўленасьці перадавога сялянства ў ведах аб нашым галоўным багацьці—аб лесе.

Можна сказаць, што „Плуг“—першая часопісь, якая задалася мэтай прасунуць у сялянскія масы веды аб лясной гаспадарцы і выконвае гэту задачу вельмі пасьпяхова.

Вельмі шпарка праводзілася кампанія „Дню Лесу“ шмат рабілася ўвагі лясом мясцовага значэньня.

Больш усяго (10 арт.) артыкулаў прыпадае на тэмы аб лясной палітыцы і законах, што ў першую чаргу і патрэбна сялянству. Да артыкулаў дадаваліся цікавыя малюнкі.

Без актыўнага ўдзелу мас не магчыма падняцьце ўзроўню і пабудовы лясное гаспадаркі на соцыялістычных началах, а гэта мажліва тады, калі сялянства навучыцца разумець гэта.

Вось чаму трэба пажадаць „Плугу“ праводзіць такую карысную працу і надалей.

**Лесавод.**

---

# Мае пажаданьні часопісі „Плуг“.

Пажадаю яму быць у кожнай хаце селяніна, а к 20-годзьдзю Кастрычніка заняць пачэснае месца ў музэі земляробнай культуры, уступіўшы свае месца „Трактару“.

Але пакуль што рэдакцыі „Плуга“ неабходна пашырыць сярод грамадзян БССР паняцьце, што кожны з іх, як мага павінен працаваць над справай узмацненьня сельскай гаспадаркі. „Роля і значэньне сельскай гаспадаркі ў справе абароны краіны—каласальны“, сказаў т. Бухарын, але многія гэтага не разумеюць. Ня кажучы аб паасобных людзях, паслухайце адмовы організацый на маю прапанову выпісаць „Плуг“: у комсамольскім клюбе г. Полацку сказалі: „Плуга“ у нас ніхто чытаць ня будзе. Землямеры з сьветлай залі Акрза—„прышлі панюхалі і прэч пашлі“, сказаўшы, што „Плуг» ня іх спэцыяльнасьць. У штабе палка—„не па нашай лініі, мы маем 12 розных гурткоў, а с.-г. у нас няма“.

Кіраўнік гуртка „Бязбожнікаў“—„Плугам“—„мы ня цікавімся“. Я ўжо ня буду датыкацца адказаў адзінак як настаўніка прыроданаўства і інш., якіх адмовы былі ня лепшыя.

А пры другім падыходзе шмат каму быў-бы патрэбен „Плуг“.

Сел. **Шасьцітка.**

---

# Чаго дасягла наша гаспадарка за 10 год Рэвалюцыі.

У 1911 г. мы купілі ў пана зямлю; неяк пабудаваліся, але да самай рэвалюцыі жылі надта бедна. Увесь прыбытак ішоў на выплату доўгу за зямлю. Доўгу да рэвалюцыі засталося 2.400 руб., які зьнішчаны ею.

Пабудаваць здолелі земляны хлеў для кароў, загарадку для коняй і хату на курыных нагах. Машын ніякіх ня было. Ураджаі збожжа былі 40—60 пуд. з дзесяціны і 600—800 пуд. бульбы. Кніжак амаль ніякіх ня было, хлявы былі халодныя, а праз гэта былі і малыя ўдоі малака.

Што-ж мы зрабілі за 10 год Рэвалюцыі? А вось што: перашлі на шматпольле, сталі сеяць лубін на ўгнаеньне, сеяць канюшыну, выку, сэрадэлю і кораньплоды. Ураджаі палёў падвоіліся; а гэта праз тое, што мы ўсе робім па ўказаньню агранома і як пішуць у с.-г. кніжках.

Пасадзілі сад і гадуем прышчэпы дзеля яго пашырэньня. Пабудавалі цёплы хлеў, кармушкі для кароў і сталі карміць па нормах.

Зрабілі ў 1924 г. малатарню, 1919 г. набылі сячкарню, у 1926 г. пружыноўку і сартыроўку, а ў 1927 г. зрабілі арфу. Вядзём досьледы над рознымі расьлінамі. Набыта розных кніг і журналаў—580 штук. Выпісваем газэты „Беларускую Вёску“ „Беднату“ і часопісі: „Новая Деревня“, „Плуг“ і „Красная деревня“. Па іх саветах мы падымаем сваю гаспадарку.

Цяпер на раёне мала ёсьць такіх гаспадарак. На выстаўках у раёне атрымоўваем 1-ай або 2-й ступені дыплёмы і прэміі за правільнае вядзеньне гаспадаркі.

Наогул кажучы, ўвесь наш хутар выпісвае розных газэт і часопісяй да 20 экз. на 19 двароў. Шмат чаго новага заводзяць нашы хутаране, а гэта зроблена дзякуючы Савецкай уладзе. Калі яшчэ пройдзе 10 год, дык нашай гаспадаркі будзе не пазнаць. Сяляне паляпшаючы сваю гаспадарку, паляпшаюць і сваё жыцьцё.

(х. Сарачынава, Пухавіцк. р.)

**А. Карнейчык.**

---

# Як можна пашырыць вясковую сядзібу.

Селяніну трэба часам на сваей сядзібе пабудаваць новы будынак, ці перабудаваць стары. Зрабіць гэта ён можа на падставе правіл аб будоўлі толькі з дазволу мясцовага сельскага савету. Апошні-ж вельмі часта не дае дазволу, калі сядзіба ў селяніна, які хоча будавацца, вузкая і на ёй немагчыма пабудавацца з захаваньнем патрэбнае нормы—прасторы.

У сучаснай вёсцы рэдка можна знайсьці сядзібу шырынёю 40 мэтраў па вуліцы. Належыць пры гэтым, каб толькі палавіна сядзібы па шырыні яе занята была будаўнічым месцам, а другая частка адведзена была пад сад альбо агарод. У большасьці вёсак будынкі пастаўлены так блізка адзін ад другога, што амаль сходзяцца стрэхамі. Пры такім расплянаваньні ў выпадку пажару аднэй хаты,

сгарае часта ўся вёска. Дзеля гэтага сельскі савет, калі няма законнага разрыву паміж будынкамі, ня можа дазволіць на вузкай сядзібе паставіць новы будынак альбо грунтоўна перабудаваць існуючы.

Як-жа быць селяніну, якому неабходна будавацца з прычыны павялічэньня сям'і ці разьвіцьця гаспадаркі. У гэтым разе трэба пашырыць сядзібу. На грунце арт. 113 зям. код. пашырэньне гэтае можа быць зроблена рознымі спосабамі.

Самы лёгкі спосаб пашырэньня сядзібы—гэта пабудавацца з дазволу сельскага савету на сваей прысядзібнай зямлі. Калі гаспадарка ня мае прысядзібнай зямлі, дык яна можа вымяніць кавалак яе ад суседа. Аб умовах згоды трэба заявіць сельскаму савету. Апошні аформіць мену зямлі ў парадку спрошчанага земляўпарадкаваньня, калі прызнае яе гаспадарча мэтазгоднай. Складзены праэкт мены прад'яўляецца сельскім саветам зацікаўленым старанам і зямельнаму вобчаству, а потым разам з паступіўшымі скаргамі прадстаўляецца на разгляд у раённую зямельную камісію.

Частковае пашырэньне сядзібных вучасткаў у вёсцы робіцца таксама пры выхадзе з яе некаторых двароў на пасёлак. Калі ён утвараецца на запасным фондзе, двор атрымлівае з яго складу вызначаную норму і з гэтае прычыны павінен адмовіцца ад зямлі, якою ён карыстаўся да гэтага часу. Яго сядзіба ў вёсцы паступае ў распараджэньне сельскага савету, які павінен скарыстаць яе дзеля пашырэньня суседніх маламерных сядзіб. Калі-ж двор выходзіць на паасобны вучастак, які знаходзіцца ў працоўным карыстаньні другога двара, дык тады выхад магчым толькі ў парадку мены зямельнымі вучасткамі. Мена гэтая дапушчаецца сельскім саветам, калі яна не прыкрывае сабою незаконнага продажу зямлі і скасоўвае пры гэтым недахопы існуючага землякарыстаньня, напрыклад, зьмяншае празпалосіцу, дапамагае пашырэньню сядзібных вучасткаў у вёсцы, касуе дальназямельле і г.д.

Пашырэньне ўсіх вузкіх сядзібных вучасткаў робіцца праз пераплянаваньне вёсак пры земляўпарадкаваньні, а таксама ў выпадку стыхійнага няшчасьця, якое зьнішчыла ўсю вёску альбо значную яе частку. Пераплянаваньне вёскі робіцца, як па згодзе зямельнага вобчаства, так і па пастанове зямельных органаў. Згода вобчаства на пераплянаваньне вёскі выказваецца ў прыгавары сходу, для законнасьці якога патрэбен удзел на ім прадстаўнікоў ня менш як ад 2/3 двароў пры ўсякім ліку іншых паўнапраўных членаў.

Сядзібная аселасьць вёскі можа быць пашырана за кошт выгану, пашы і іншых ужыткаў агульнага карыстаньня, якімі распараджаецца зямельнае вобчаства, альбо на кошт ужыткаў, якія знаходзяцца ў працоўным карыстаньні членаў вобчаства. Пры пашырэньні сядзібных вучасткаў за кошт ужыткаў агульнага карыстаньня сход прыгаварам сваім вырашае пытаньне, ці павінны даць замену вобчаству тыя двары, якія ў выніку пераплянаваньня вёскі атрымаюць больш шырокую сядзібу чым яны мелі раней. Пры пашырэньні-ж сядзібнай аселасьці вёскі за кошт зямлі, якая знаходзіцца ў карыстаньні паасобных двароў, апошнія наогул маюць права на атрыманьне замены з дапасаваньнем расцэнкі ад тых двароў, сядзіба якіх будзе пашырана. Ня маюць права на замену толькі такія двары, землякарыстаньне якіх перавышае максымальную норму.

Пашырэньне сядзібнай аселасьці вёскі робіцца ў парадку земляўпарадкаваньня на грунце пункту „е“ арт. 149 зям. код. Складаецца пры гэтым земляўпарадчы праэкт, у якім, апрача зьвестак прадугле-

джаных 173 арт. таго-ж кодэксу, павінна быць паказана: а) якая замена зямлі належыць ад адных землякарыстацеляў другім у зьвязку з пашырэньнем іх сядзібных вучасткаў, б) будаўнічае месца на новых сядзібах і в) тэрмін пераносу будынкаў.

Па пастанове зямельных органаў на грунце ўвагі да арт. 113 зям. код. пашырэньне сядзібнай аселасьці вёскі робіцца ў тых выпадках, калі зямельнае вобчаства ня хоча даць прыгавору аб абавязковым для яго пераплянаваньні вёскі. Абавязак гэты ўзьнікае для вобчаства пры зьнішчэньні ўсей альбо значнай часткі вёскі (10 проц. з лікам двароў ня менш 10) у выніку стыхійнага няшчасьця—пажару, разводзьдзя ці гурагану.

Апрача таго зямельны орган можа зрабіць пастанову аб прымусавым пашырэньні сядзібнай аселасьці вёскі, калі прызнае згодна пункту „б" арт. 151 зям. код. неабходнасьць адразу-ж зьнішчыць недахопы землякарыстаньня, вельмі шкодныя па іх уплыву на гаспадарку, альбо абастраючыя пазямельныя адносіны. Пры гэтым захоўваюцца ўсе пералічаныя вышэй умовы і парадак руху земляўпарадчых спраў. Належыць, аднак, заўважыць што да гэтага часу ня было ні аднаго выпадку, каб зямельны орган выкарыстаў права, якое даецца яму ўвагай да арт. 113 зям. код., на прымусовае пашырэньне сядзібнай аселасьці існуючай вёскі. Тлумачыцца гэта тым, што ажыцьцяўленьне гэтага права зьвязана з вялікімі труднасьцямі з прычыны неабходнасьці пераносу будынкаў наперакор жаданьню насельніцтва.

Нарэшце, у практыцы паўстае часам пытаньне, ці магчыма пашырэньне вузкае сядзібы паасобнага землякарыстацеля за кошт зямлі суседа ў парадку абавязковага земляўпарадкаваньня, калі не дасягаецца згода паміж імі аб замене зямлі. На пытаньне гэтае трэба адказаць адмоўна, калі сусед, за кошт зямлі якога магчыма пашырэньня маламернай сядзібы, ні ў чым не парушае вызначаных у законе правіл вядзеньня сваёй працай сельскае гаспадаркі. Такі адказ даецца з тэй прычыны, што адабраньне зямлі з працоўнага карыстаньня можа рабіцца на грунце арт. 21 зям. код. ня ў прыватных інтарэсах паасобных гаспадарак, а толькі ў інтарэсах дзяржаўных і грамадзянскіх.

Калі-ж сядзібны вучастак скарыстоўваецца не па свайму прызначэньню, а напрыклад, засяваецца збожжам ці ідзе пад сенажаць, дык па іску зямельнага органу такая сядзіба можа быць залічана ў запасны фонд пастановай раённае зямельнае камісіі. Залічэньне гэтае дапушчаецца толькі ў тым разе, калі з адбіраемага вучастку можна ўтварыць самастойную альбо пашырыць сумежную маламерную сядзібу. Двор, які надзяляецца гэтай сядзібай, павінен сплаціць уложаныя ў зямлю выдаткі ранейшаму землякарыстацелю, а калі землякарыстаньне апошняга не перавышае максымальнай нормы, даць яму роўнацэнную замену ў палявой зямлі.

**Аўг. Вішнеўскі.**

---




# 1-ыя курсы часопісі „Плуг“ для сялян-дасьледчыкаў.

Завочныя курсы для сялян-дасьледчыкаў адчынены на старонках часопісі „Плуг“ у сьнежні м-цы мінулага году. Там зьмешчаны чатыры гугаркі: 1-я „Шго трэба ведаць пры пастаноўцы досьледаў па жывёлагадоўлі“—Праф. Н. Пеліхава; 2-я „Досьледы з адкормам сьвіней“—С. Журыка; 3-я „Аб пастаноўцы вопытаў па гадоўлі цялят“--Н. Найдзёнава і 4-я „Досьледы па малочнай гаспадарцы“—А. Рыбакова.

Апрача папярэдняга і гэтага нумару курсы будуць зьмяшчацца ў двух-трох наступных нумарох.

Мэта завочных курсаў даць падрыхтоўку ў вядзеньні досьледаў ня толькі сялянам-дасьледчыкам, а ўсім хто цікавіцца гэтай справай. Кожны чытач „Плуга“ знойдзе для сябе цікавую галіну, па якой у далейшым здолее закласьці ў сваей гаспадарцы досьлед і атрымаць неабходныя вынікі. Для с.-г. гурткоў курсы зьявяцца добрым падручнікам у іх працы; аграномам пры правядзеньні сялянскіх курсаў у раёне, вучыцелям у вясковых школях і інш.

Пажадана, каб чытачы „Плуга“ далі свае водзывы па гэтаму першаму вопыту правядзеньня с.-г. курсаў для сялян.

---

## Апрацоўка глебы.

### Гутарка 5-я.

I.

Сярод асноўных спосабаў уздыму ўраджайнасьці нашых палеткаў галоўнае месца, бясспрэчна, належыць добрай апрацоўцы глебы, калі мы, пры яе дапамозе, здолеем утварыць такую яе пабудову, якая спрыяе пасьпяховаму адбываньню ўсіх зьявішч, неабходных для здаровага жыцьця культурных расьлін.

Вось гэтыя зьявішчы: бязупынная зьмена паветра ў глебе, выстарчальнае яе абвільгаценьне і цяплыня, а таксама бязупыннае ўтварэньне належнае колькасьці пажыўных матэрый [1]).

Спрыяючая ўсім гэтым зьявам пабудова глебы завецца дробнаглыбкаватай, якая прыпамінае нам тое, што мы назіраем у слаі шроту,

---

[1]) Для жыцьця расьлін апрача вады, цяпла, паветра і ежы неабходна яшчэ і сьвятло, на якое апрацоўка глебы ня ўплывае.

насыпанага ў шклянку. Прыгледзьцеся, як ляжаць паасобныя шрацінкі. Паміж імі засталіся невялічкія шчылінкі, у якіх знаходзіцца паветра.

Калі на такую дробна-глыбкаватую глебу пачне падаць дождж, дык дажджавая вада, спачатку, толькі змочыць тыя глыбачкі глебы, якія ляжаць на паверхні. Вада як-бы прыліпне да кожнай з іх надзвычайна тонкім слоем; але з павялічэньнем увільгатненьня паверхні глебы частка вады пачне ўцягвацца ў кожную з вельмі дробных і вузкіх шчылінак—валасных трубачак, якія ва ўсіх кірунках прарэзваюць кожную глыбачку глебы.

Далей, дажджавая вада, змачыўшы праходы паміж паасобных глыбачак, дзякуючы сваёй вазе, пройдзе ніжэй і трапіць у паміжглыбкавыя шчыліны. Частка гэтай вады будзе змочваць акружаючыя шчыліну сьценачкі глыбінак і пройдзе ў іхнія валасныя трубачкі, а частка пад уплывам уласнай вагі і ціску дажджавой вады зьверху, пачне далей зьніжацца і захоўвацца ў глыбіню глебы.

Паветра, якое знаходзілася ў шчылінах паміж глыбінак, будзе ў значнай колькасьці выціснута вонкі. Але, як толькі вада, якая займала тую ці іншую шчыліну паміж дробных глыбачак глебы, сьцячэ ўніз, альбо прыцягнецца да акружаючых шчыліну глыбачак і ўвойдзе ў сетку іх валасных шчылінак-трубачак, дык зараз-жа сьвежае, добрае, чыстае паветра прарвецца звонку (знадворку) у гэтую шчыліну.

Такім чынам, пад час дажджу, у дробна-глыбкаватай глебе, ня толькі пасьпяхова адбываецца абвільгатненьне яе, але аднаўляецца і зьмяняецца паветра ў глебе. Дробнаглыбкаватая глеба і наогул зьмяшчае ў сябе больш паветру, чым, напрыклад, распыленая, альбо моцна зьлёгшаяся, зьбіўшаяся ў скалу; дробнаглыбкаватая глеба лягчэй і дыша: яна лягчэй і ў большай колькасьці зьмяняе сваё сапсаванае паветра на сьвежае. Звычайна глеба ў дзень мацней награецца і паветра, якое знаходзіцца ў ёй пашыраецца і ня можа ўжо зьмясьціцца ў шчылінах глебы і часткова выходзіць з яе; ноччу-ж глеба ад холаду сьціскаецца, зьменшае свой аб'ём і знаходзячаеся ў глебе паветра а тады ў свабодныя часткі межглебавых шчылін праходзіць сьвежае паветра. І гэта вельмі важна, бо ў так званым сьвежым, чыстым паветры багата тлёну (кісlarоду), які патрэбен для дыханьня карэнчыкаў і карысных, паветралюбных (аэробных) бактэрый. У спрыяючых умовах [1]) гэтыя бактэрыі расплоджваюцца ў глебе ў нязьмерным ліку і робяць надзвычайна паважную працу, яны дапамагаюць раскладаньню як таго гною, які мы заворваем у глебу, так і ўсіх памёршых жывёлін і расьлін, якія жылі на ёй, альбо ў ёй.

Усё гэта карысныя бактэрыі ператвараюць спачатку ў так званы гумус (перагной), а потым патроху раскладаюць яго канчаткова: на ўглетлён, ваду і розныя пажыўныя для расьлін солі, як, напрыклад, салетра і інш. Гэтыя солі разам з тымі, якія раней былі ў глебе, расчыняныя ў вадзе, ідуць на пажыву расьлін.

Калі-ж у глебе ня будзе добрага, чыстага паветра [2]) дык ў ёй зараз-жа замест карысных паветралюбных (аэробных) бактэрый пачнуць

[1]) Спрыяючымі ўмовамі для разьвіцьця паветралюбных бактэрый будуць тыя-ж самыя, якія дапамагаюць добраму разьвіцьцю і жыцьцю культурных расьлін (належная колькасьць вільгаці, цяплыні, ежы і тлёну).

[2]) А гэта вельмі часта бывае ў нашай распыленай ральлі, калі яна, напрыклад, пасьля дажджу замуроўваецца так, што праз утварыўшуюся зьверху скарынку паветра амаль што не праходзіць у глебу. Тады душацца ў ёй ня толькі карысныя бактэрыі, але і карэнчыкі расьлін.

расплоджвацца шкодныя. Гэтыя шкодныя бактэрыі неабходны ім, як і ўсяму жывому, тлён пачнуць адбіраць ад розных тлёнавых злучэньняў у глебе, напрыклад, ад тэй жа салетры. Яны патроху, але зусім могуць зьнішчыць гэтую вельмі каштоўную соль, якая так патрэбна для пажывы расьлін і якую прыгатавалі з перагною (гумусу) карысныя бактэрыі.

Вось чаму трэба нам клапаціцца, каб нашай глебе надаць належную дробнаглыбкаватую пабудову і каб гэтая добрая пабудова захоўвалася, па магчымасьці, доўгі час. А гэта ўжо вельмі залежыць ад моцнасьці, трываласьці гэтых дробных глыбачак, якую ім надае той самы перагной, які пасьпяхова ўтвараецца ў глебе пры нормальным раскладаньні гною і іншых арганічных матэрый [1]), што ўжо залежыць ад апрацоўкі. Перагной моцна склейвае тыя маленькія частачкі глебы, з якіх утворана кожная дробная глыбачка, і іх ўжо ня так лёгка зноў раз'еднаць (распыліць глебу).

Мы ўжо казалі, што распыленая глеба лёгка пакрываецца скарынкай, якая ня пушчае ў глебу паветра. Гэтая самая скарынка таксама вельмі ўтрудняе ўвільгатненьне глебы дажджавой вадой. Замест таго, каб лёгка сьцякаць паміж глыбачкамі ўніз, вада альбо зьбягае з поляў лагчыны, альбо застойваецца на паверхні поля і патроху выпарваецца. З другога боку, дзякуючы гэтай скарыначцы вельмі хутка глеба перасыхае, бо вузенькія шчылінкі — валасныя трубачкі, якіх багата ў скарынцы, будуць бязупынна „выцягваць“ вільгаць глебы і выпарваць яе ў паветра. Калі-ж глеба пакрыта слоем дробна-глыбкаватай зямлі, дык у ёй, як пад кажухом, кінутым на зямлю, добра захоўваецца глебавая вільгаць.

Усе адмоўныя бакі благой апрацоўкі асабліва моцна і на больш доўгі час адчуваюцца на больш цяжкіх гліністых, альбо сугліністых глебах. Але ўсім вядома, што кожную глебу трэба араць, скародзіць і г. д. А раз гэта так, дык кожнаму земляробу трэба гэта рабіць, як найлепш.

Як добры музыка патрапіць досыць добра граць на няўдалай скрыпцы, а благі і ад добрай ня будзе мець карысьці, так і ў земляробстве.

Трэба яшчэ добра памятаць, што нават нашыя падзолавыя глебы ня такія ўжо бедныя, як мы гэта прызвычаіліся казаць, пазіраючы на украінскія чорназёмы. Яны трымаюць у сябе вялікае багацьце. Вельмі часта сотні пудоў, патрэбных расьлінам азоту, фосфару і калія, як кажуць, валяюцца пад нашымі нагамі. Трэба толькі здолецьператварыць гэтае нязьлічанае багацьце ва ўрадлівасьць.

Рацыянальная апрацоўка гэтаму можа значна дапамагчы і даўно ўжо трэба на яе зьвярнуць больш увагі. Бо хаця трэба часьцей пульхніць паверхню глебы, але зусім неразумна, напрыклад, без пары пераворваць яе. Як добрая гаспадыня дае спакойна „адпачыць“ расчыненаму цесту, каб ў гэты час прымусіць працаваць на сябе безьліч мікраскапічных дражджавых грыбкоў, так і земляробу трэба здолець сваечасова правесьці ўсеагульную мабілізацыю, выклікаць да жыцьця і прымусіць працаваць на сябе вялікую армію карысных бактэрый. Трэба таксама памятаць, што гэтую-ж вялікую армію можна ў кароткі

---

[1]) Якія паходзяць ад організмаў жывёлін і расьлін.

час і пагубіць. Якая-небудзь „дурная“ скарынка, аб якой ужо мо‘ напрыкрыла сялянам слухаць ад аграномаў, можа „ператварыць“ глебавае паветра ў шкодны, задушлівы для карысных бактэрый і карэнчыкаў расьлін газ, якім зьяўляецца паветра бяз тлёну.

Такім чынам, каб атрымліваць добрыя, роўныя ўраджаі, земляроб павінен паклапаціцца: 1) каб увесь ворны слой глебы яго палеткаў складаўся з дробных глыбачак памерам, прыблізна, у канаплянае зярнё з тым, каб ніколі на паверхні палеткаў ня было скарынкі, 2) каб гэтыя глыбачкі былі моцнымі, трывалымі, ня лёгка-бы расьпіраліся прыладамі, ня лёгка-бы разьбіваліся і размываліся дажджавымі кроплямі і, наогул, вадой і 3) каб слой гэтых дробных глыбачак быў, па магчымасьці, грубейшым, бо тады большая маса глебы будзе „жыць“, больш будзе ў земляроба гэтага глебавага цеста, з якога выйдуць у свой час і сапраўдныя пірагі.

II

Веды аб тым, у якім стане павінна знаходзіцца наша глеба, каб даваць найвялікшыя і „роўныя“ ураджаі, здабыты работай шэрагу вучоных аграномаў, якія дзесяцігодзьдзямі працавалі над гэтымі пытаньнямі. Для больш дасканалага іх уяўленьня прыдзецца і яшчэ багата папрацаваць, як на полі, так і ў лябораторыях [1]). Але, гэтага яшчэ мала. Трэба зразумець, якім чынам весьці палявую гаспадарку, г. значыць апрацоўку глебы, а таксама яе ўгнаеньне і чаргаваньне культур, каб з найменшымі выдаткамі, найпрасьцей і найхутчэй дасягнуць ужо досыць добра вызначанай мэты—наданьня глебе дробна глыбкаватае пабудовы.

Гэтая мэта аднолькавая ў земляробаў усіх краін, нават усіх частак сьвету бяз розьніцы клімату і гатунку глебы, але за тое шляхі, якія вядуць да яе, розныя. Прыдзецца вельмі моцна лічыцца ня толькі з кліматам і глебай той ці іншай старонкі, але з натуральнымі і гаспадарчымі ўмовамі, якія ўтварылі розьніцы нават паміж палеткамі аднэй і тэй-жа дробнае сялянскае гаспадаркі.

Таму ня дзіва, што над гэтым пытаньнем зараз працуе амаль што кожнае дасьледчае поле, над ім ломіць сабе галаву кожны агроном-дасьледчык. Багата ўжо і зроблена; напрыклад, канчаткова вырашана, што тэхнічна найлепшай апрацоўкай пад азіміну будзе так званы раньні ўгноены чысты папар, бо ён дае глебе належную пабудову, якая і захоўваецца найдаўжэй.

Толькі, нажаль, ня ўсюды гэта будзе найвыгадней. І ў нас на Беларусі чыстыя ўгноеныя папары дазволілі-б у найхутчэйшы час надаць глебе культурнасьць, заставіць яе мацней, бадзёрай „жыць“, дазволілі-б мабілізаваць усё тое, ад чаго залежыць трывалае, бязупыннае пасьпяховае ператварэньне багацьця глебы ў яе ўраджайнасьць... А ўсё-ж такі далёка ня кожны гаспадар згодзіцца на гэтую мабілізацыю і, мо‘, для большасьці дробных і, нават сярэдніх, гаспадароў, яна будзе занадта дарагой.

Чаму так моцна ўплывае на ўраджай азіміны чысты раньні папар? Бо раньні папар—гэта доўгі рад паміж сабою зьвязаных апрацовак глебы, як кажуць, гэта—асобная „сыстэма“ апрацовак, расьцягнуўшыхся на значны тэрмін, якая ўтварае і падтрымлівае належную

[1]) Працоўня, дзе праводзяцца навуковыя досьледы.

пабудову глебы ў найлепшы час для „жыцьця“ глебы, калі яна, будучы досыць вільготнай, атрымлівае ад сонца належную цяплыню і г. д.

Але-ж падобную сыстэму можна пабудаваць і пры занятым „прапашнымі культурамі папары, напрыклад, пры папары, у якім-бы расла раньняя бульба. Таксама ў час паміж прыборкай жыта і пасевам ярыны, асабліва позьняе, можна ажыцьцявіць неблагую сыстэму апрацоўкі глебы, калі на працягу вельмі значнага і досыць цёплага часу глеба будзе падтрымлівацца ва ўспульхненым і чыстым ад сарнін стане і г. д.

Пытаньне аб чыстых раньніх папарах вырашана дэталёва толькі для стэповага чарназёму, а для нечарнязёмных лясных краін яно мае яшчэ шэраг нявысьветленых бакоў, Адно можна ўжо сказаць, што сыстэма апрацоўкі чыстых папараў у нас вельмі моцна адрозьніваецца ад сыстэмы яго апрацоўкі ў стэпавых засушлівых краінах. Узораны раньні чысты папар на стэпу ўжо ня пераворваецца, каб ня высушыць глебы, а ў нас ня толькі бяз шкоды, але часта з карысьцю варта яго перадваіць, а, нават, ператраіць. Сыстэма апроцоўкі раньняга чыстага папару ў нас будзе залежыць ад умоў таго ці іншага раёну, ад тыпу глебы і г. д., хаця яна абавязкова будзе ўключаць у сябе галоўнае яе зьвяно—раньнюю воранку. Што-ж датычыцца пытаньняў апрацоўкі глебы пад ярыню, дык яны вырашаны досыць дэталёва таксама, толькі для стэпавых умоў, дзе даўно ўжо працуе сетка моцных дасьледчых станцый. Але яны далёка ня вырашаны ў нечарназёмнай лясной паласе, асабліва ў нас на Беларусі. Сельска-гаспадарчыя дасьледчыя станцыі былі з'арганізаваны ў Савецкай Беларусі толькі ў апошнія гады, а таму яны ня могуць яшчэ досыць стала выказвацца за тую ці іншую сыстэму апрацоўкі, так Горацкая дасьледчая станцыя, якая галоўным чынам, працуе на лёсавідным (пылаватым) суглінку, (па трохгадовых дадзеных 1924-26 г.) падкрэсьлівае магчымае значэньне веснавага ворыва пад авёс, якое дало лепшыя ад васеньняга вынікі.

Турская дасьледчая станцыя, якая працуе пад Рагачовам ва ўмовах лёгкай пяскаватай глебы, блізка падасланай суглінкам, па выніках досьледу за тыя-ж тры гады кажа, што воранка на зіму вельмі добра ўплывае на ўраджайнасьць аўса, а ад вяснавога пераворваньня атрымаліся ў 1925 і 1926 г. розныя вынікі.

На жаль, Менская с.-г. дасьледчая станцыя, арганізаваная ў 1924 г. на Пярэсьпе, чамусьці да 1926 г. не ўключала ў сваю праграму вывучэньня пытаньня апрацоўкі глебы. Віцебская станцыя не пасьпела разгарнуць сваю праграму, а Палеская на пясчаных глебах Мазыршчыны толькі пачынае сваю працу.

Але за тое трэба адзначыць, што на трэцім з'езьдзе аграпрацаўнікоў Палесься, які быў склікан у канцы 1924 г. на Радамыслянскай дасьледчай станцыі, якая вывучае пытаньні сельскае гаспадаркі украінскага Палесься (мяжуецца з нашым Прыпяцкім Палесьсем), у сувязі з дакладамі дырэктара станцыі і прадстаўніка Новазыбкаўскай пясчанай дасьледчай станцыі (знаходзіцца блізка да паўднёва-ўсходняе мяжы нашае рэспублікі), была выказана такая думка: „У раёне Палесься на няўгноеных землях прыёмы апрацоўкі маюць абмяжованае значэньне. Уплыў апрацоўкі павялічваецца па меры палепшаньня пяскаватых палеткаў“.

Такім чынам, трэба чакаць, што пытаньне аб сыстэме апрацоўкі глебы пад ярыню ў розных раёнах БССР будзе вырашана па рознаму.

(*Працяг будзе*).

**Праф. С. В. Скандракоў.**

# Запраўка глебы арганічнаю масаю.

## Гутарка 6-я.

Роля арганічнае масы ў глебе надзвычайна вялікая. Арганічная маса кладзе адбітак на біолёгічныя і хімічныя працэсы, якія адбываюцца ў глебе, а таксама мае значны ўплыў на фізычную ўласьцівасьць глебы.

Глебы Беларусі бедныя арганічнаю масаю. Пяскі і супяскі, марэнныя і лесавідныя супяскі зьяўляюцца галоўнымі тыпамі глеб. Як вядома, гэткія глебы маюць надта дрэнную фізычную ўласьцівасьць. Затрыманьне вады і пажыўной матэрыі ў іх малое. Дробна-глыбкаватая пабудова зусім парушана, ад чаго глеба заплывае пасьля дажджу, а гэта перашкаджае пранікаць у глебу паветру, патрэбнай карэньням культурных расьлін для дыханьня. Аб шмат іншых шкодных уплывах на глебу, якія зьвязаны з недахопам у ёй арганічнай масы, мы застанаўляцца ня будзем, а для параўнаньня возьмем глебу, якая багата арганічнаю масаю і зьяўляецца плоднаю глебаю. Прыкладам возьмем гародную глебу. Калі ўзайці на гарод і паглядзець толькі на колер глебы, які звычайна на гародзе бывае амаль што чорным ад арганічнае масы, дык ужо гэты колер будзе часткаю сьведчыць аб багацьці і плоднасьці глебы. Калі ўзяць такую глебу ў рукі і скачаць камок (вядома, патрэбна, каб глеба была ня зусім сухая і ня мокрая), то такая глеба адчуваецца ў руках пульхнай. Камок раскідаецца на маленькія кавалкі, калі яго кінуць на зямлю з вышыні грудзей чалавека. Гэта сьведчыць аб дробна-глыбкаватай пабудове глебы.

Арганічная маса багата азотам, які зьяўляецца для расьлін неабходнай пажыўной матэрыяй і з часам пераходзіць у форму годную для скарыстаньня расьлінамі (аміяк і г. д.). Гэта яшчэ больш падкрэсьлівае значэньне арганічнае масы ў глебе.

Ня трэба толькі думаць аднабока, што адзін толькі чорны колер глебы паказвае аб яе плоднасьці. Часта на Беларусі мы сустракаем глебы, якія маюць чорны колер і многа арганічнай масы, але яны зусім ня годны для сельскае гаспадаркі. Гэтыя глебы звычайна забалочаныя. На іх застойваецца вада і разводзіцца кісласьць шкодная для расьлін. Каб гэту глебу зрабіць ураджайнай, дык патрэбны асушка і другія мерапрыемствы.

Пасьля такога кароткага і ня поўнага агляду значэньня арганічнай масы ў глебе, мы пяройдзем к таму, як селянін у нас на Беларусі запраўляе глебу арганічнаю масаю і якія маюцца для гэтага магчымасьці.

Галоўным матэрыялам для запраўкі глебы арганічнаю масаю зьяўляецца гной, торф, кампост і зялёнае ўгнаеньне.

З гэтых матэрыялаў галоўнае значэньне мае гной. Пачатак яго ўжываньня знаходзіцца ў глыбокай старадаўнасьці. Гной кладуць у глебу для ўзбагачваньня яе пажыўною матэрыяю для расьлін, але разам з гэтым запраўляюць глебу арганічнаю масаю, якое знаходзіцца ў гнаі прыблізна каля 25 проц. Наогул арганічная маса амаль заўсёды мае пажыўную матэрыю для расьлін і загэтым трудна адрозьніць адзін уплыў арганічнай масы на ўраджай праз паляпшэньне фізычнай уласьцівасьці глебы і інш.

Ці маецца ў гаспадарцы толькі гною, каб яго хапіла для ўгнаеньня, а разам з гэтым і для запраўкі глебы арганічнаю масаю. На гэта запытаньне часткаю дасьць адказ досьлед Турскай сельска-гаспа-




дарчай вопытнай станцыі, надрукованы ў кніжцы Б. А. Бабіцкага „Производственные минимумы в крестьянском хозяйстве". З гэтай кніжкі мы выпісваем лічбы, з якіх яскрава відаць недахоп гною ў сялянскай гаспадарцы ў пудох.

| Акруга | Колькасьць маючагася гною | Запатрабаваньне на гной | Недахоп гною | Ступень забясьпекі ў %% |
|---|---|---|---|---|
| 1. Бабруйская | 1341,75 | 3756 | 2414,25 | 35,89 |
| 2. Барысаўская | 1377,42 | 4134 | 2756,58 | 33,31 |
| 3. Віцебская | 1418,16 | 3936 | 2517,84 | 30,02 |
| 4. Калінінская | 1169,34 | 4014 | 2844,60 | 29,12 |
| 5. Менская | 1419,00 | 4242 | 2823,00 | 33,45 |
| 6. Магілеўская | 1178,70 | 4314 | 3135,30 | 27,33 |
| 7. Аршанская | 1261,89 | 4224 | 2962,11 | 29,88 |
| 8. Мазырская | 1474,29 | 1872(2293) | 397,71 | 78,74(64,3%) |
| 9. Полацкая | 1388,94 | 4410 | 3021,06 | 31,44 |
| 10. Слуцкая | 1544,31 | 3804 | 2259,69 | 40,60 |
| У сярэднім па БССР | 1379,55 | 3924 | 2244,45 | 35,14 |

Адгэтуль відаць, што забясьпечанасьць гноем сялянскіх гаспадарак здавальняецца толькі на 35,14 проц. ад патрэбнай колькасьці.

У адносінах узбагачэньня глебы пажыўной матэрыяй нам памогуць мінэральныя ўгнаеньні, але для ўзбагачэньня глебы арганічнаю масаю трэба шукаць другіх шляхоў.

Часткаю недахоп гною папаўняецца зялёным угнаеньнем (лубін) і травасеяньнем. Па падліку таго-ж аўтара (Б. А. Бабіцкага) яно ў сярэднім па БССР даходзіць толькі да 6,5 проц. патрэбнай колькасьці, што разам з гноем складае 41,64 проц.

Зялёнае ўгнаеньне можа мець у нашай гаспадарцы вялікую ролю па ўзбагачэньню глебы арганічнаю масаю. На зялёнае ўгнаеньне могуць сеяцца розныя расьліны (сэрадэля, грэчка, лубін і інш.), але найбольшае значэньне для гэтай мэты мае лубін. З лубінам заворваецца вялікая колькасьць арганічнае масы, большая частка чым тая, якая кладзецца з гноем.

Трэба зьвярнуць большую ўвагу на гэту расьліну і даць ёй пачэснае месца сярод другіх с.-г. расьлін. Акрамя пасеву лубіну ў папары, трэба сеяць яго як пажніўную культуру. Пажніўны лубін сеюць пасьля збору азімага збожжа і раньняй ярыны. Калі пагода спрыяючая, дык лубін увосень парасьце і пойдзе на ўзбагачэньне глебы арганічнаю масай.

На Беларусі маецца каля 650.000 дзес. тарфяных балот. Торф амаль увесь складаецца з арганічнай масы. Трэба толькі гэту масу рацыянальна скарыстаць і мы ўзбагацім нашу глебу арганічнаю масаю.



Сяляне Архангельскай губ. ўжо даўно ўжываюць торф, як угнаеньне і атрымоўваюць ураджай 60—70 пуд. з дзес., тады калі сярэдняе па ўсяму СССР каля 50 пуд.

Унос сырога торфу ў глебу часта бывае шкодным затым, што ў ім маецца шкодная для расьлін кісласьць. Таму да вывазкі торфу на поле трэба яго падрыхтаваць. Падрыхтоўка робіцца праз кампаставаньне торфу з гароднаю зямлёю, лісьцем, вапнаю, фосфарытам і рознымі гаспадарчымі адкідамі, або правядзеньнем праз скотны хлеў, як подсьціл.

Для кампосту могуць ісьці розныя гаспадарчыя адкіды і бяз торфу. Матэрыялам для прыгатаваньня кампосту можа быць бацьвіньне бульбы, сьцябло і карэньне сланэшніка, розныя сарнякі і быльлё, якое выпалваюць з гароду, качарыжкі ад капусты, сапсованы корм (макуха, бульба), лісьце дрэў, попел, сажа, пыл з дарогі, глей з сажалак, вапнавае сьмецьце, сьмецьце з двара, птушыны кал, дзёран і інш.

Трэба селяніну выбраць дзе-небудзь за хлявом месца і гэтыя адкіды складаць у кучу. Аб прыгатаваньні кампосту ўжо пісалася ў кніжках, а таму ў канцы гэтага артыкулу зьмяшчаецца пералік літаратуры, дзе можа кожны ўсё, аб чым тут пісалася, знайсьці.

Пад'агульваем усё сказанае наступным:

1. Наша глеба бедная арганічнай масаю і патрабуе запраўкі ёю.

2. Гною і зялёнага ўгнаеньня, якія галоўным чынам нам служаць для ўзбагачэньня глебы арганічнаю масаю хапае толькі на 41,64 проц. патрэбнай колькасьці.

3. Селяніну-дасьледчыку і наогул селяніну трэба зьвярнуць увагу на пашырэньне плошчы засеву зялёнага ўгнаеньня.

4. Шырока трэба паставіць пытаньне аб скарыстаньні ў сельскай гаспадарцы торфу, тарфянога кампосту і кампосту розных гаспадарчых адкідаў.

5. У мясцох, якія знаходзяцца блізка ад тарфянога балота, трэба торф праводзіць праз подсьціл у хлеве. Гэта павялічыць колькасьць і якасьць гною.

У заключэньне трэба сказаць, што перад селянінам-дасьледчыкам стаіць вялікая задача па пастаноўцы вопытаў у гэтым напрамку.

**Літаратура:**

1. Проф. *Д. Прянишников*—Учение об удобрении.
2. Проф. *М. А. Егоров*—Вопросы удобрения почв.
3. Працы Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі.
4. Часопісь „Плуг“ за 1925, 1926 і 1927 г. г.
5. „100 пудоў ураджаю з дзесяціны“ (Дзяржаўнае В-ва Бел. Сялянская бібліотэчка № 72).
6. *З. В. Логвинова*—Торфяной компост, как удобрение.
7. *П. Р. Купреенок*—Усвоение азота торфа растениями (Труды Научного Института по удобрениям № 19).
8. *П. Р. Купреенок*—Торф и торфяной навоз, как удобрение.
9. *И. С. Бирюзов*—Торфяное удобрение и его применение на нашем севере.
10. *П. М. Соловьев*—Торфо-моховая подстилка, ее приготовление, употребление и значение в хозяйстве.
11. *И. И. Вихляев*—Торфяная подстилка.
12. „ Торф в сельском хозяйстве, „Программных опытов по испыт. торфа“.
13. *Е. К. Алексеев*—Зеленое удобрение.

**П. Трус.**

# Мікробы глебы і процэсы забалачваньня.

## Гутарка 7-я.

Мікробы такія малыя, што іх можна бачыць толькі праз асобнае павялічваючае шкло Але іх так многа, і яны так хутка плодзяцца, што роля іх у прыродзе вельмі значная.

Мікробы ёсьць усюды: у зямлі, у вадзе, у паветры, у расьлінах, жывёле, людзях і г. д. Гэта ад іх здараюцца розныя заразьлівыя хваробы, заводзіцца гніль, кісьне малако, кіснуць гуркі, капуста і г. д. Асабліва многа мікробаў у глебе.

У падзолавай глебе[1]) жыве некалькі сартоў мікробаў. Адны з іх перарабляюць мёртвыя грубыя астаткі расьлін, гною і г. д. у тонкі перагной, які прасякае глебу і надае цёмны колер верхняму пласту глебы. Другія вырабляюць з азотавых прадуктаў перагною аміяк, трэція перарабляюць аміяк у азоцістую кіслату, чацьвёртыя апошнюю перарабляюць у салетру, якой харчуецца расьліна праз свае карані і г. д.

Значэньне мікробаў у падзолавай глебе вялікае. Толькі праз згніваньне расьлін, якое адбываецца дзейнасьцю мікробаў, з памёршых расьлін аслабаняюцца тыя матэрыі, якія былі спажыты імі ў час свайго жыцьця з глебы і зварочваюцца зноў у глебу. Гэтыя прадукты ідуць у пажыў новым жывым расьлінам. Так кожны год, дзякуючы дзейнасьці ў глебе мільярдаў малюсенькіх мікробаў, вырастаюць новыя расьліны на трупах леташніх і сваімі трупамі ўзбагачаюць зямлю для расьлін будучага году.

Гэтыя мікробы вельмі кволыя стварэньні. Для свайго жыцьця яны патрабуюць у дастатку сьвежага паветра, вады і цяпла. Таму яны патрабуюць, каб глеба была заўсёды пульхная; жывуць яны бліжэй да паверхні. Пясок, які прасыхае ўлетку, прадстаўляе сабой нявыгадныя ўмовы для жыцьця мікробаў. Калі зьверху глебы ўтвараецца шчыльная дзярніна, альбо на ральлі шчыльная скарынка ад дажджу, праз якія ня можа паветра праходзіць у глыбіню, тады гінуць гэтыя мікробы ў глебе.

Мікробы баяцца марозаў. Зімой, калі замярзае зямля, яны гінуць і працэсы згніваньня ў глебе спыняюцца. Гэтым-жа тлумачыцца і тое, што зімой доўга ляжаць непарушанымі тыя прадукты, якія ўлетку праз 2-3 дні пачынаюць дрэнна пахнуць (гніюць). І ў сялянскім халодным хляве, дзе летам салома хутка перарабляецца ў добры гной, дзе ўлетку стаіць несьцярпімы пах, зімой, калі ўсё застывае, канчаюцца працэсы згніваньня і ўтварэньня гною.

Усе мікробы падзяляюцца на дзьве групы: адны з іх жывуць толькі ў прысутнасьці паветра (аэробы) другія могуць жыць і без паветра (анаэробы).

Калі глеба так заліваецца вадой, што з яе выціскаецца паветра, альбо на глебе зьверху ўтвараецца скарынка, праз якую не праходзіць у глыбіню глебы паветра, дык у глебе прападаюць усе аэробныя мікробы і на іх месцы хутка разводзяцца анаэробныя.

Дзейнасьць у глебе анаэробных мікробаў зусім іншая, чым аэробных. Папершае, гэтыя мікробы далёка ня ў такой меры здольны пера-

---

[1]) Аб падзолавых глебах глядзі мой артыкул „Падзолістая глеба, як вытворчая фабрыка земляроба“ ў № 7 час. „Плуг“, 1927 г.

рабляць астаткі расьлін у перагной. Астаткі расьлін толькі з паверхні крыху абвугліваюцца, чарнеюць і ў такім выглядзе астаюцца на доўгі час. Зразумела, што ў працягу доўгага часу з іх на паверхні глебы ўтвараецца тоўсты слой. Гэта маса расьлінных астаткаў мае тую характэрную асаблівасьць, што ў яе ўпітваецца шмат вады. Гэта яшчэ ў большай меры спрыяе разьвіцьцю тут толькі анаэробных мікробаў.

Такім парадкам, на паверхні глебы ўтвараецца торф, які зьяўляецца галоўнай адзнакай працэсаў забалачваньня ў глебе. Праз мокры торф паветра ні ў якім разе ня можа прайсьці глыбей у мінэральны грунт і ў ім пачынаюць утварацца зусім новыя працэсы.

Характэрнай асаблівасьцю анаэробных мікробаў зьяўляецца іх здольнасьць браць тлён (кіслард) патрэбны для іх жыцьця ня проста з паветра, а аднімаць ад мінэральных прадуктаў глебы. Першым з такіх прадуктаў зьяўляецца окісь жалеза, ад якой мікробы аднімаюць адну частку тлёну і перарабляюць окісь жалеза ў закісь.

У падзолавых глебах, у якія праходзіць паветра, жалеза знаходзіцца ў форме окісі і таму вельмі цяжка расчыняецца і пераносіцца ў працэсе глеба-ўтварэньня. Пры раськісьленьні жалеза ў глебе яно набывае здольнасць лёгка расчыняцца ў вадзе і таму разам з другімі прадуктамі вельмі хутка вымываецца з глебы. У сувязі з гэтым глеба хутка траціць свой чырвоны колер (колер окіснага жалеза) і набывае альбо сіні колер ад закіснага жалеза, альбо галубавата-шэры пры вымыве ўсяго жалеза з глебы. Галубавата-шэры колер прыдаецца глебе гліназёмам, які з глебы вымываецца больш цяжка, чым жалезістыя прадукты. Такая галубавата-шэрая вязкая парода—гэта ўсім вядомы глей. Глей зьяўляецца другім прызнакам працэсаў забалачваньня. Глеба ў такім стане набывае такі выгляд: зьверху—торф, ніжэй—аглееная мінэральная парода.

У глебах, якія толькі часова забалачваюцца, а потым зноў у іх працэс балоцісты мяняецца на падзолісты ў сувязі з падсыханьнем глебы, закіснае жалеза зноў пераходзіць у окіснае і зноў выпадае ў асадак. Адкладаецца яно ў такім выпадку ў форме жалваноў цёмнабурага колеру, велічынёю ад канаплянага зерня да бобу. Гэтыя цьвярдыя, як каменьні зёрны (ортштэйны) зьяўляюцца таксама сьведкамі часовых працэсаў забалачваньня.

Такім парадкам маленькія стварэньні—мікробы зьяўляюцца ў значнай меры прычынай такіх вялікіх працэсаў у глебе, як стварэньне балот. У сельскай гаспадарцы асабліва шкодны закісныя прадукты, бо яны атрутны для расьлін. Гіне ўраджай на так званых нізінных вымачках таму, што там утвараюцца ў глебе закісныя прадукты. Гэта мажліва праверыць пракапаўшы ўлетку там ямку: у такой глебе напэўна знойдуцца ортштэйны.

Таму-ж на нізкіх мокрых лугах і нізінах растуць толькі кіслыя асокі, жорсткі хвошч, цьвярды сівец і г. д., якія прыстасаваліся да такіх нявыгадных умоў жыцьця, за тое ад іх і карысьць невялікая.

Працэсы забалачваньня ў глебе вельмі шкодны. Іх трэба нішчыць. Зрабіць гэта можна вось як. Трэба асушыць глебу, а потым вапнаваць яе, каб зьнішчыць кісласьць у глебе, якая ўтвараецца таксама ў працэсе дзейнасьці мікробаў. У такіх умовах зноў хутка развядуцца карысныя для сельскай гаспадаркі аэробныя мікробы і стануць перарабляць торф у перагной і іншыя карысныя для расьлін прадукты.

**П. Рагавы.**

---

# Жывёлагадоўля



## Якую маюць скаціну сяляне хутара Шмакі Магілеўскай акругі, і як яе даглядаюць.

Шмакаўскія хутары пачалі існаваць з 1915 г., а да гэтага часу сяляне жылі ў вёсцы. Двароў у сучасны момант хутары маюць да 40. Па сацыяльнаму складу дзеляцца на беднякоў, якіх каля 35 проц., а рэшта серадвякі. У сярэднім на гаспадарку прыпадае па 8-9 дзес. пахаці выключа адной культурнай гаспадаркі, ў якой яе да 18 дзес. Апрацоўка глебы вядзецца сваімі сем'ямі, толькі ў час жніва або сенакосу прыходзіцца наймаць рабочых на дзень-другі.

У сераднякоў будынкі маюць гарадзкі выгляд, а ў новабудуючыхся яны зусім дрэнныя. Хлявы ў сераднякоў паімшаны, маюць вокны; толькі, к іх сораму, бяз столі. За апошнія часы ў хлявох можна ўбачыць кармушкі ня толькі для коняй, а нават і для кароў і сьвіней (Мельнікаў Кастусь).

Усё гэта сьведчыць аб тым, што жывёлаводзтва тут пастаўлена добра. Разьвядзеньню жывёлаводзтва спрыяюць тут умовы прыроднага характару і дастатак сенажацяй, а падругое, сялянства рупліва здабывае харчы на палёх. Сеецца канюшына, выка, сэрадэля, кармовыя буракі і г. д.

Трэба адзначыць, што сялянства ўпоруч з земляробствам мае ўхіл у бок жывёлаводзтва. Племяной жывёлы налічваецца ў такім ліку: коняй—12, кароў—24, сьвіней—7, Ёсьць самыя лепшыя сіментальскія пароды кароў, ангельскія, з коняй парода палепшаная мясцовая і 10 сьвіней окшырскай пароды. Догляд жывёлы адметны ад звычайнага сялянскага догляду. Паіць і то пачынаюць цёплай вадой. Увясну-ж, калі можна адкапаць кораньплоды, рэжуць буракі, турнэпс, бульбу, якія даюць з пойлам або так. Коняй гаспадар трымае 2-3 і кароў 4-5.

Паляводзтва таксама вядзецца культурна. Маюць чатырохпольны поля-перамен з пасевам канюшыны, лубіну на ўгнаеньне, а ў апошнія гады пачалі рабіць вопыты з прымяненьнем парашкоў, як супэрфосфат, калійная соль і інш. Прымяняецца раньняе ворыва папару, раньні пасеў азімых, зябленьне і г. д.

Асабліва новыя мэтады землякарыстаньня прывіваюцца пасялкоўцам, якія два гады назад па земляўпарадкаваньню атрымалі прырэзку. Канюшына ў іх цяпер расьце лепш, чым у старых гаспадароў.

Усе гэтыя заўвагі падкрэсьліваюць, што жывёлаводзтва ў Чачэвічскім раёне можа існаваць і пашырацца.

Сел-дасьл. **Я. Савіцкі.**

# Як уцяпліў я свой хлеў.

Хлеў у нашых сялян і па гэты час ня мае павіннае ўвагі: ня трудна ўбачыць замест дзьвярэй загарадкі і вялікія шчыліны ў сьцянах і пад страхой, праз якія прадувае жывёлу паветрам і заносіць сьнегам. Мерзьне жывёла, мерзьне і яе яда. Толькі прывыкшая да ўсяго наша жывёла можа перажыць у такім становішчы зіму. У такім хлеве гной замярзае і спыняецца пергніваньне яго аж да самай вясны. Было гэтак і ў мяне, бо заведзена было так ад дзядоў. Але ў мінулым годзе я перабудаваў свой хлеў. Сьцены добра перамшыў, зрабіў шчыльныя дзьверы, і зла́жыўшы з аполкаў і жэрдак столь, накрыў саломай. У сьцяне прасёк і зашкліў два невялічкіх ваконцы.

Напрацягу ўсёй зімы я ніколі ня бачыў, каб жывёла траслася ад холаду. Яна мела добры выгляд і малака каровы давалі больш. Відавочна карысьць цёплага хлева ў параўнаньні з халодным. Кожны гаспадар павінен наладзіць, каб быў цёплы хлеў.

**Крупенін.**

---

# Як узмацніў я сваю гаспадарку.

Да 1923 году я меў пастарому звычайную трохполку, якая давала магчымасьць прахарчаваць аднаго каня, адну карову і тры авечкі. Праз гэта я жыў вельмі бедна.

З 1923 г. я перашоў на чатырохпалёўку, увёў правільны севазварот і бачу, што нельга раўняць трохпалёўку з чатырохпалёўкай. Пры чатырохпалёўцы менш пустуючай глебы, а больш пад пасевам. Пры правільным севазвароце і добрай апрацоўцы глебы магчыма атрымаць у два разы большы ўраджай.

Вясною ўзорваю папар я не пазьней 20-га мая і лічу гэты папар многа лепшым, чым позны сялянскі. Узараўшы поле, зараз-жа яго бараную ў два сьляды. Пры ўзросьце зельля я пераворваю мелка чатырохлемяшнікам. За два тыдні да пасеву жыта пераворваю звычайным плугам. Вясною, калі сьнег растане і глеба правяне, я жыта злёгка бараную.

Ураджай жыта ў мяне ў 1925 г. быў 90 пуд. зярна з дзес., у той час, калі ў суседзей па 80—60 пуд. У 1926 г. ў мяне ўжо быў ураджай 125 пуд., а ў суседзяў ня больш 80 пуд. з дзес.

Пшаніца і авёс добра ўдаюцца па зяблеваму ворыву пасьля асыпных і караньплодаў. У 1925 г. па зябі я зьняў 150 пуд. аўса, а ў суседзей было толькі па 80 пуд. з дзес.

Для пашы я вылучыў пяты клін з няўдобнай зямлі.

Чатырохпалёўка дала мне магчымасьць сеяць караньплоды, што дае падсобак для зімы ў корме.

Дзякуючы ўсяму гэтаму, я моцна стаў на ногі і лічуся сярэднім гаспадаром у сваёй вёсцы.

**Сел. В. Місун.**

---

# Карысьць ад воранкі поля ўвосень.

*(Вынікі Турскай дасьледчай станцыі).*

Турская дасьледчая станцыя ўжо тры гады ставіць досльеды з зяблевай воранкаю поля пад яравыя расьліны (авёс, ячмень і бульбу). Вынікі ў сярэднім такія:

| | Сярэдні ўраджай аўса за 3 гады. | Ячменю за 1 год. | Бульбы за 2 гады. |
|---|---|---|---|
| Адна зяблевая воранка . . | 61,5 п. | — | 1500 п. |
| Зяблевая воранка+1 веснавая воранка . . . . . | 54,3 „ | 22,7 п. | 1190 „ |
| Адна веснавая воранка . . | 44,7 „ | 20,2 „ | 1095 „ |

Як бачым з паказаных лічбаў, у сярэднім за тры гады лепшы ўраджай бульбы, аўса і ячменю быў ад зяблевай воранкі. Веснавая пераворка не павышала, а нават паніжала ўраджай. Але паніжэньне ўраджаю ад веснавой пераворкі адносіцца толькі да 1924--25 г., калі вясною была суш. У 1926 г. вясною выпала дажджу (52 мм.) у 4 разы больш, чым у 25 г. (13 мм.) і, як вынік гэтага, пераворка вясною дала павышэньне ўраджаю:

1) Адна зяблевая воранка . . — 42 п. зярна аўса.
2) Зяблевая і веснавая пераворка . — 57,5 „ „ „
3) Адна веснавая воранка . . — 38 „ „ „

З гэтых лічбаў відаць, што пераворка вясною патрэбна, але ў засушлівую вясну яна высушвае глебу і дрэнна адбіваецца на ўраджаі. На падставе паданага можна зрабіць такі вывад:

1) Заворваньне на зяб на дробна-пескавых глебах у раёне Паўднёвага Ўсходу Беларусі павышае ўраджаі аўса і бульбы.

2) Пераворку вясною трэба рабіць так, каб ня высушыць глебу, а гэта можна рабіць толькі тады, калі воранка робіцца ня плугам, а 4-хлямешным лушчыльнікам або рандалём (талеркавая барана), а калі яе няма, дык пружыноўкаю.

Аграном **Драздоў.**

# Лісьце, як подсьціл.

Шмат яшчэ ёсьць бядняцкіх гаспадарак, дзе няма чым падсьцілаць жывёлы. Скаціна ў такіх гаспадарках трымаецца ў брудзе—загэтым яна дае менш малака, а таксама ў яе на скуры зьяўляецца шмат чужаедаў. Дзеля таго, каб забясьпечыць скаціну подсьцілам, селяніну трэба скарыстоўваць апаўшае лісьце. Гэта можна зрабіць кожнаму. Калі ападае з дрэў лісьце, трэба паехаць у лес і назграбаць яго. Лісьце дасьць селяніну дзьве выгады, папершае, будзе гной і, падругое, палепшыцца догляд каровы. Трэба скарыстоўваць лісьце на подсьціл.

(В. Каласоўшчына, Капыльск. р.). Сел. **С. Астрэйка.**




## Вопыт з пасевам сталовай морквы па 30 проц. калійнай солі.

Сёлета на вучастку ў 90 кв. саж. я пасеяў сталовую моркву сорт „Нонская даўгаватая“. Насеньне было здабыта ў сваёй гаспадарцы.

Вучастак быў разьдзелен на дзьве роўныя дзялянкі па 45 кв. саж. Адна была без угнаеньня, а на другой вясною расьсеяў 13 фун. калійнай солі. Вучастак быў узораны на зіму.

Вясною 17-VI—1927 г. я яго паскародзіў і ўзараў. На адну палавіну паклаў калійную соль. Пасьля ворыва зараз-жа паскародзіў, зрабіў градкі і пасеяў сталовую моркву. На леце тры разы палоў і тры разы асыпаў матыкаю. 10-га кастрычніка ў прысутнасьці райаграфнома І. Белякова была зроблена прыборка і вучот ураджаю. Вынікі наступныя:

| Дзялянкі | Ураджай з дзял. | Ураджай з дзес. | Розьніца супроць ня ўгноенай | Расьліны папярэднікі морквы |
|---|---|---|---|---|
| 1. Без угнаеньня . . | 24 п. 15 ф. | 1302 п. | — | У 1925 г. бульба без угнаеньня. У 1926 г. па поўнаму гнаёваму ўгнаеньню кармовыя буракі. |
| 2. 15 пудоў 30 проц. кал. солі на дзесяціну . . | 45 п. | 2400 п. | 1098 п. | У 1925 г. выка на зярно без угнаеньня. У 1926 г. былі кармовыя буракі па поўнаму гнаёваму ўгнаеньню. |

Рэльеф абодвых дзялянак аднолькавы: маленькі ўхіл к захаду. У 1926 г. увесь вучастак быў заняты аднолькавымі расьлінамі і на аднолькавым угнаеньні. Толькі ў 1925 годзе расьліны былі розныя: ня ўгноеная дзялянка была пад бульбай, а ўгнаеная пад выкай.

Сел. **Янка Судак.**

# Як я стаў сеяць караньплоды.

У 1926 г. я выпадкова дастаў крыху турнэпсу і засеяў 40 кв. саж. па сьвежаму ўгнаеньню. Праз некалькі дзён ён узышоў, але дзякуючы засушліваму надвор'ю на яго страшэнна напала земляная блыха, якая паядала маладыя ўсходы. Каб забясьпечыць далейшы рост расьліны і зьнішчыць блыху, я разы са два, з расой маладыя расьлінкі абсыпаў попелам і вапнай. Час праходзіў. Турнэпс уабраўся ў чатыры лісткі. Тады я яго прарваў і пакінуў расьлінку ад расьлінкі на 3 вяршкі. Праз некалькі часу я яшчэ раз прарэдзіў і пакінуў ужо расьлінку ад расьлінкі на 6 вярш. Разоў 3 на леце палоў і пульхніў зямлю паміж радкоў, адлегласьць паміж якімі была 12 вяршкоў. Ураджай быў з 40 кв. саж. 49 пуд., што на дзес. выходзіць 2940 пуд.

У 1927 г. вясною я ўбачыўся з вучастковым аграномам, які даў мне параду пасеяць буракі і моркву, што я бязумоўна і зрабіў. На гэта я скарыстаў кавалак поля з-пад бульбы ў 300 кв. саж. Як толькі абсохла зямля, быў вывезен гной па разьліку 1 пуд. на 1 кв. саж. Вучастак быў узоран на глыбіню 4 вярш. і крыху прыбаранаваны, каб зрабіць поле роўным. Пасьля разьмяралася і высяваліся буракі на роўнай плошчы ў радкі адлегласьцю 16 вярш. адзін ад другога. Як толькі паказаліся ўсходы прышлося ўспульхніць каля іх зямлю. Рабілася першае прарэджваньне і другое. Апошняе адлегласьцю ў 8 вярш. два разы на леце апрацоўвалася акучнікам, пакуль лісьце дазваляла праехаць паміж радоў. Пры другім прарэджваньні я частку расады скарыстаў для засадкі вучастка, на якім вымакла бручка.

Вынікі былі добрыя. Буракі былі па 7-9 фун. Ураджай з 300 кв. саж. адтрымаў у 340 пуд., што на дзес. дасьць 2720 пуд.

У гародзе на кавалачку ў 25 кв. саж. пасеяў моркву на попеле. Догляд быў такі самы, як і за буракамі. Ураджай атрымаў у 27 пуд., што на дзес. дае 2592 пуд.

Як бачым, дык вынікі здавальняючыя. Мяне ўзяла яшчэ большая ахвота і к гэтаму году я прыгатаваў поле з-пад грэчкі ў 400 кв. саж., куды вывез гной і заараў.

**У. Юркевіч.**

(Горкі).

---

# Досьлед на балоце.

Вёска Мазалава, Мсьціслаўскага раёну, мае вучастак тарфянога балота. Тып балота—тарфяна-асокавы. Адзначаю гэта дзеля таго, што ёсьць балоты таксама тарфяныя, але імшаныя, на якіх апрача моху растуць амаль толькі адны журавіны. Апошнія балоты патрабуюць больш працы для іх асушкі з мэтай зьвяртаньня іх у сенажаць або пахаць. Мазалаўскае балота асушана ў 1926 г. У мінулым годзе на гэтым мэліораваным балоце быў закладзен вопытна-паказальны вучастак з 3-х дзялянак па 318 кв. мэтр. (70 кв. саж.) кожная. На месцы дзялянак глыбіня залегласьці торфу да 6 мэтр. Балота пітаецца пераважна грунтоваю вадою. Глыбіня вады ад паверху вызначае напрамак карыстаньня мэліораванай плошчай: калі вада блізка—можна скарыстаць пад сенажаць, глыбей—пад пахаць. На пахаці з асушанага балота таксама трэба ведаць, якія можна сеяць расьліны, бо розныя расьліны па рознаму адчуваюць большую ці меншую прысутнасьць вады пры росьце.

У сваім досьледзе мы вывучалі толькі адно пытаньне: які ўплыў маюць грунтовыя воды на выка-аўсяную мешаніну, пасеяную на вопытным вучастку. Мешаніну мы пасеялі з разьлікам 64 кілё (4 пуд.) выкі і столькі аўса на гэктар. Кожны вучастак угнаілі калійнаю сольлю—0,25 тоны (каля 15 пуд.) на гэкт. Для назіраньня над грунтовымі водамі былі выкапаны невялічкія студні.

Ніжэй наступная табліца паказвае вынікі досьледу:

| №№ дзял. | Глыбіня грунтовых вод у сантыметрах. | Ураджай сухога сена | | | | Каштоўнасьць насеньня і ўгн. ў р. | Кошт сена з дзял. па 50 к. пуд. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | З дзялянкі | | На гэктар | | | | |
| | | Клгр. | Пуды | Цэнцер | Пуд. | | Руб. | Кап. |
| 1 | 30 | 49 | 3 | 15,4 | 94 | | 1 | 50 |
| 2 | 80 | 147 | 9 | 46,2 | 281,82 | 3 | 4 | 50 |
| 3 | 100 | 145 | 8 п. 35 ф. | 46 | 280 | | 4 | 49 |

З гэтае таблічкі мы бачым, што найлепшыя ўраджаі атрыманы з дзялянак, дзе грунтовыя воды глыбей ад паверху балот. Розьніца дзялянак 2 і 3 невялічкая і знаходзіцца ў межах, як кажуць, памылкі вучота. Але ўраджаі з іх сьведчаць аб тым, што глыбіня грунтовае вады на балоце да 80-100 сантм. не зьяўляецца пагражаючай з боку перасушкі балота. Дзялянка № 1 дала ўраджай у тры разы меншы супроць астатніх праз тое, што на ёй грунтовая вада была няглыбока ад паверху. Зразумела, што гэта зьявішча паказвае на неабходнасьць глыбей асушваць балоты. Трэба адзначыць, што ўраджай сена на нашым балоце да мэліорацыі ніколі не перавышаў 50 пуд. на гэкт. Вучасткі-ж мешаніны далі, пералічыўшы на гэктар ад 94 да 280 пуд.

Выклікаю, усіх зацікаўленых гэтай справай, прыняць удзел у досьледах, бо культура балот—справа ў нас зусім новая, а спэцыялістых па гэтай галіне с.-г. вельмі мала і яны ня здолеюць абслужыць усяе мэліараванае плошчы. Таму ўсякі правільна праведзены досьлед з балотам можа дапамагчы праз часопісь „Плуг“ сялянству і часткаю агранаміі ў гэтай цяжкай, але вельмі карыснай справе.

Агр. **І. Крупень.**

*(Мсьціслаў, Аршанск. акр.).*

---

# Як я разьвёў лугавую аўсяніцу.

Усім вядома, як засьмечаны нашы сенакосы: мохам, хвашчом, белаўсом, люцікам, званцом і інш. Добрая мурожная трава год ад году ўсё больш і больш выціскаецца імі.

Каб разьвясьці на сваім сенакосе добрую траву і даць ёй пануючае становішча ў травастане, я ўлетку 1925 г. сабраў каля 3 фун. сьпелых мяцёлак лугавой аўсяніцы. У сярэдзіне чэрвеня 1926 г. насеньне было высеяна ручным сяўнікам на плошчы 0,03 дзес. Глеба пад пасеў узята агародная, лёгка-пясчанага тыпу. Раней тут была бульба.

Усходы ўзрасьлі добрыя. Улетку прышлося два разы прапалоць планэтам. Да восені аўсяніца добра ўкаранілася, калі і была скошана.

У мінулым, 1927 г. сабраны першы ўраджай у ліку 26 фун. зярна і 75 фун. саломы, што пералікам на дзес. дасьць 21 пуд. 26 фун. зярна і $62^1/_2$ пуд. саломы



Для мешаніны на сухаватых лугох аўсяніцы бярэцца 10-12 фунт. Такім чынам насеньня сабраў многа, якім можна засеяць каля 3 дзес. Спажыўнасьць лугавой аўсяніцы ня ніжэй цімафейкі. Але цімафейка патрабуе добра ўспульхненую глебу, аўсяніца-ж расьце і на цьвёрдым, але прабаранованым лузе. Гэта шматгадовая расьліна можа расьці на ўсялякіх глебах. Касіць яе неабходна ў пачатку яе красаваньня.

Угнаеньне попелам значна павялічвае ўраджай. Я рабіў з гэтым вопыт і атрымаў наступны вынік: на дзялянцы, ўгноенай попелам аўсяніца мела сьцябло 90 сант. даўжыні, а без угнаеньня 31 сант.

Атрымаўшы добрыя вынікі, я ў мінулым годзе пашыраў пасеў лугавых траў, адчыніў выхавальнік на плошчы 120 к. с. Высёяны на 73 радкох па 8 саж. кожнае наступ ныя травы: францускі райграс, яжа звычайная, касьцёр бязосты, лісахвост, мятліца лугавая і грабеньнік.

У гэтым годзе чакаю атрымаць значную колькасьць з іх насеньня і потым палепшыць травастой сваіх сенажацяй.

Селянін **Г. Шасьцітка.**

---

# І на дзесяціне можна гаспадарыць.

Ня верылі сяляне таварышу Кастантыновічу—настаўніку Коўрынскай школы, калі ён гаварыў гэтыя словы сялянам, прыехаўшы першы год у гэту вёску.

„А вось пагаспадаруй, пабачым, што атрымаеш з дзесяціны“—падсьмейваліся сяляне. І праўда, страшна было брацца за гаспадараньне на школьнай дзесяціне. Зарасла яна травою, дзесяткі гадоў ня бачыла гною ня бачыла добрай апрацоўкі і, зразумела, нічога не радзіла.

Але ня спужаўся таварыш Канстантыновіч. Добра пераараў і перабаранаваў глебу, паклаў добра гною і прыняўся за сяўбу. Туг паўстала пытаньне: што сеяць. На дзесяцінцы ня вельмі разгонішся—парашыў таварыш Канстантыновіч - сеяць кармовыя буракі, выку, бульбу і гародніну. Паклаў гной на поле з разразрахунку 1 пуд на кв. саж. і стаў добра даглядаць за пасевам. Урадзіла ўсё вельмі добра. Крыху менш паўдзесяціны дасеяная выкаю дала ў яго 120 пуд. сена і каля 10 пуд. выкавага насеньня. Насеньне ў пераводзе на грошы каштуе 15 руб,, сена па 50 кап. пуд.—60 руб.

Такую-ж частку дзес. ён засеяў бульбаю і атрымаў з яе 500 пуд., што ў пераводзе на грошы дасьць 170 руб.

Апрача таго невялічкая частка гэтай дзесяціны засеяна была буракамі і яны ўрадзіліся добрыя, так што гаспадар атрымаў да 300 пуд. Іх пуд таксама каштуе 25 кап., значыць усе—75 руб.

А капуста, буракі і розная гародная дработа таксама расла на гэтай-жа дзесяціне.

Вось і выходзіць, што пры ўмелым і правільным гаспадараньні з аднэй дзесяціны атрымана трыста з лішкам рублёў прыбытку. А сялянская дзесяціна ня дае і трэцьцяй часткі гэтай сумы.

Гэтыя дасягненьні т. Канстантыновіча ўтварылі свой практычны ўплыў на сялянства. Летась, па яго прыкладу, палова вёскі сялян сталі сеяць кармовыя буракі і карміць імі кароў, а ў гэтым годзе амаль што ўсё сялянства іх пасее.

Тав. Канстантыновіч перавёў на нормавае кармленьне сваіх кароў. У выніку гэтага карова дае 270 ведзер малака і доіцца амаль што круглы год. Гэты прыклад яскрава сьведчыць аб тым, што толькі пры налажваньні культурнай гаспадаркі, можна прымусіць дзесяціну даць у тры разы большы ўраджай.

А. Забалотны.

(Бабруйскі раён).

---

# Паштовая скрынка.

*Шасьцітку Г.* Ваш артыкул „Задачы па пчалярству"—накірован у рэдакцыю часопісі „Пчеловодное дело" ў Маскве.

*Карунчыку А.* „Плуг" з Вышымі артыкуламі Вам пасылаецца. Артыкул аб торфу і вопыт з мінэральнымі парашкамі атрымалі.

*Вечару Г.* Дамашні выраб віна з яблык—глядзі артыкул у № 8, а выраб павідла, пасьцілы і мармалады—ў № 9, „Плуга" за 1927 г.

*Самцэвічу П., Ф. Сопату, М. Сенько, Б. Шымковічу.* Артыкулы атрымалі, па мажлівасьці скарыстаем.

Сел. Ф. Г. Сопату на пытаньне: „Колькі будзе каштаваць пабудова масла-сыр заводу, на якіх умовах яны будуюцца, за кошт сялянства ці Дзяржавы?" Адказ: каштоўнасьць кустарнага заводу, абарудаванага нямецкімі мэханічнымі прыладамі каштуе каля 4800 руб. Камбінат масла-сыр завод з поўным мэханічным абарудваньнем, які можа перапрацаваць каля 40 тыс. пуд. малака ў год, каштуе 32 тыс. руб.; на апошні запрашваецца ад дзяржавы датацыя. Для пабудовы завода павінна быць 25% сродкаў т-ва, а рэшту доўгатэрміновы крэдыт на 5-10 год дае Белсельбанк.

---

**Заўвага:** 1) У № 12 „Плуга" за 1927 г. на 11 стар. у 10 радку зьверху надрукавана „1 ф. здым. малака" а трэба чытаць—„6 ф.".

2) На вокладцы ў „Зьмесьце" пад § 10 надрукавана „праф. А. Пялюшын", а трэба: „Праф. А. Фядзюшын".

---

# САД І ГАРОД.

## Аб салодкай антонаўцы Я. Мароза.

*Салодкая антонаўка.* Як да вайны, гэтак і цяпер многія садаводы шукаюць салодкаю антонаўку. Садаводам надта хочацца мець гэтакую антонаўку-камянічку, каб яблык быў прыгожы, чырвонабокі, салодкі і доўгатрывалы. Займаўся і я гэткім шуканьнем. Я маю антонаўку-камянічку з многіх мясцоў Саюзу і з-замежаў, як ад уласьнікаў, гандлёвых, школьных і іншых выхавальнікаў, дзе яе прадавалі пад назвамі камянічкі, вялікай, залатога манаха, чырвонабокай лугавінкі і інш. Усе гэтыя сарты растуць у нашым Саюзе многа год і зьяўляюцца самымі звычайнымі сартамі антонаўкі. Таксама мною была выпісана ў 1885 г. антонаўка-камянічка ад В. К. Яніхен, Чарнігаўскай губ., аб якой было абвешчана ў часопісі „Садаўніцтва", што яна салодкая. Дзеля таго, каб скарэй атрымаць яблыкі з рэклямаванай камянічкі, я прышчапіў выпісаныя сучкі ў галінкі баравінкі. На другі год узяў сучкі ад баравінкі і прышчапіў гальлё салодкай белі (белая салодкая, веснавая). Калі я дачакаўся ад гэтых прышчэп яблыкаў, дык яны ні чым ня розьніліся ад звычайнай усюды існуючай антонаўкі. Але ўвосень 1895 г. маёй жонкай былі знойдзены на двух галінах салодкія яблыкі з пахам антонаўкі—гэта былі галінкі прышчэпленай камянічкі, атрыманай ад Яніхен. Салодкія яблікі былі толькі на двух здольна ўзрослых галінках, на ўсіх-жа астатніх былі яблыкі звычайнай кіслай антонаўкі. Чаранкамі ад гэтых цікавых галін я прышчапіў некалькі дзічак, а праз тры гады я ўжо пасадзіў у сад 33 маладых прышчэпляных дрэўцы. Я сабе думаў, што калі не атрымаюцца яблыкі з салодкімі яблыкамі, дык і звычайныя кіслыя прыгадзяцца. А калі пачалі гэтыя дрэўцы даваць ураджай, дак яблыкі былі салодкія, з пахам антонаўкі, як і на тых 2-х галінках салодкае белі.

Цяпер гэта антонаўка пад назвай салодкая антонаўка Я. Мароза, гадуецца ў нашых садох для продажы. Хаця гэта антонаўка і ня можа мець вялікага гандлёвага значэньня, але яна неабходна ў кожным, нават невялічкім садку. Я даю яе па аднаму дрэўцу кожнаму пакупцу прышчэп з майго гадавальніка. Гэтыя яблыкі добра для сушкі (у дадатак з кіслымі і ігрушамі пры варыве) і загатаўленьні фруктовага чаю *).

*Звычайная антонаўка* добра ўдаецца на пульхных суглінках, на якіх вада доўга не застойваецца, на ўзгорках і высокіх мясцох. Родзіцца яна і на зьнішчаных глебах. Але вядома, што бяз ворыва і пульхненьня глебы ў садзе не магчыма ўзгадаваць яблыню, ня гледзячы на тое, што іншыя расьліны любяць успульхненую глебу

---

*) Фруктовы чай робіцца проста: сушаныя яблыкі крышацца тонкімі пластамі, пасыпаюцца на рэшата і ставяцца ў зыркую печ, дзе яны і пражацца. Трэба толькі засьцерагацца, каб яны не пагарэлі, чаму дапамагае частае памешваньне.

антонаўка лепш расьце і родзіць ў садох, дзе глеба ня ўзорваецца. Калі сад трымаецца залужаным, дык вырасшая ў ім яблыня завецца лугавой. Яблык, з узгадаванай яблыні на спустошанай глебе ў голадзе, мае сярэднюю велічыню, рэпчаты воблік, чырвонабокі, тоўсьценкі і доўгатрывалы. На багатых, добра ўгноеных глебах антонаўка дае вялікія ўраджаі, з вялікімі яблыкамі, але тады яны не таварны. Смак антонаўкі многа залежыць ад глебы. Самая лепшая антонаўка, па словах гандляроў, атрымліваецца на Беларусі, але менш трывалая, чым з усходніх губэрняў. У залежнасьці ад пагоды і іншых гадавых умоў, антонаўка мае нахіл вельмі мяняць смак, велічыню і выгляд яблык. Бывае ў няўраджаны год, калі толькі застаецца дзе-ні-дзе яблыка, што яны вырастаюць, як кажуць, з казіную галаву на тым дрэве, дзе раней былі звычайныя камянічкі-антонаўкі. А часам дзе-небудзь уродзіцца гэткая чырвонабочка, што не магчыма прыняць за антонаўку.

Адзначу частку разнавіднасьцяй антонаўкі.

1) Антонаўка паўтарафунтовая, яблык белы і ў добры год пад час вельмі вялікі, але ў сухі год удаюцца маленькія і нятрывалыя, бо перасьпаваюць.

2) Антонаўка белая з Горак ад В. Рытава, яблыкі даўгаватыя і прыгожыя, але таксама ня трывалыя.

3) Антонаўка садовая, Гангарта. На выгляд больш ня прыгожая, іржавая праз што ня мае пашырэньня хоць і захоўваецца добра.

4) Звычайная камянічка з гораду Фанежа. Яблыкі сера-іржава-залацістага колеру, моцна трымаюцца на дрэве, менш іншых сартоў паражаюцца струп'ямі, вельмі смачныя; асабліва мёрзлыя, але заўсёды маюць на сабе шмат бародавак праз што выгляд іх няпрыгожы. Гэтыя яблыкі зусім адрозьніваюцца ад антонаўкі і я ня ведаю чаму яны маюць такую назву.

5) Антонаўка вясеньняя В. І. Мічурына. Пасадзіў я ў 1915 г. штук сорак, але за струплівасьць і інш. ганьбу прышлося выкінуць, засталося толькі для калекцыі.

6) Антонаўка-камянічка звычайная.

7) Антонаўка салодкая Я. Мароза. Гэтай антонаўкі ў нас маецца 7 розных відаў. Яна дае добры ўраджай. Вынікі досьледу над адным дрэвам гэткія: калі нармальна дрэўца ўзрасло, дык у першы раз атрымаўся ўраджай 3 пуд. у наступны—6 пуд., далей 9 і 12 і ў апошні дасьледчы год 15 пуд. У пытаньні марозатрываласьці, трэба адзначыць, што на спустошаных, бедных глебах на антонаўцы ніколі не зьмярзаюць як дубцы, гальлё, гэтак і ствол. Для падвояў, калі сад распалажан на нізкім, вільготным месцы, антонаўка ня прыгодна, бо часта дрэва пагнівае. Але калі прышчэпы рыхтуюцца для садоў з больш вышэйшаю мясцовасьцю, дык пры неабходнасьці і яна можа быць скарыстана для пасеву і ўзгадаваньня дзічкоў. Звычайныя лясныя дзічкі лепш за іншыя дзеля падвою. У самыя сухія гады, як дзічкі, так і шчэпы на іх вызначаліся, як больш трывалыя.

Ёсьць у мяне антонаўкі сеянцы, якія пасеяў па савету В. Рытава ў адным з сваіх артыкулаў часопісі, што селяніну можна, купіўшы добры яблык, пасадзіць зерня з яго, узгадаваць і атрымаць даволі добрыя яблыні.

У 1888 годзе я пасеяў семя антонаўкі, узяўшы яго з самых лепшых, вялікіх яблыкаў. Калі яны ўзрасьлі, дык 5 штук з іх я пасадзіў у садзе, а 2 у полі каля канавы. І праўда, частка з іх дае вельмі добрыя, смачныя, прыгожыя па колеру і трывалыя ў захаваньні яблыкі.

Ёсьць з іх яблыны схожы з антонаўкай, з Баравінкай і інш. Вышыня дрэў і велічыня таксама розная.

З пасаджаных у полі адна яблыня даўно мяне цікавіла роўнасьцю дрэва, чыстым лісьцем і малажавай карою, але высьпець яблыкам не давалі двуногія шкоднікі. Толькі 1926 г. некалькі яблыкаў дасьпела і я ўбачыў іх вялікую здольнасьць.. Яблыкі былі сярэдняй велічыні, але бяз ніводнай плямы, з невялічкай чырвонаватасьцю з сонечнага боку. Цікавасьць у тым, што поруч з гэтай яблыняй расьце другая, дык яна абамшалая, ня здольная, хоць і існуе ў адных умовах з першай.

З сваіх думак аб антонаўцы магу дадаць, што калі-б хто запытаўся ці здаволен я нашай антонаўкай, дык я бы зразу адказаў, што не. У дажджлівы год яблыкі родзяцца маленькія, з балячкамі. Лепшай зімовай яе таксама лічыць ня можна. У нас на Беларусі трэба лічыць яе за позьнюю асеньнюю, асабліва ў паўночных акругах. Як-жа лічыць антонаўку зімоваю яблыняй калі пры захаваньні к вясьне яблыкаў з яе вельмі мала застаецца. Па маіх досьледах да красавіка м-ца вылежваюць ня больш 5-10 шт. з сотні. Але пакуль лепшай ня маем, дык трэба здавальняцца ёю, працуючы ў напрамку вывядзеньня новых сартоў.

**Я. Мароз.**

---

# Пашырайце пасевы беларускай белакачаннай капусты Я. Мароза.

У пачатку 1927 г саўхоз Лютня атрымаў ад Горацкай с.-г. акадэміі дзеля досьледаў каля 25—30 фун. насеньня беларускай белакачаннай капусты Мароза Да гэтага часу ў Лютні кульцівіравалі толькі Браўншвэйскую капусту, якая лічыцца найлепшай па ўраджайнасьці.

Капусту ў Лютні высаджваюць на плошчы гадавальніка—на палявой глебе. Для параўнаньня высадзілі расаду капусты Мароза поруч з Браўншвэйскай. Догляд за ўсёй капустай быў аднолькавы. У час продажы (кастрычнік 1927 г.) выявілася, што капуста „Мароза" адрозьнівалася ад Браўншвэйскай меншай велічынёю качана і круглай формай. Важылі качаны больш чым Браўншвэйскае. Так, напрыклад, пры продажы мяшок Браўншвэйскай капусты важыў 3 п. 20 фун., гэты-ж самы мяшок Марозаўскай капусты важыў 5 п. 15 фун.

Пры ачыстцы качаноў, з беларускай капусты прыходзіцца зьнімаць менш лісьцяў і храп'я, чым з Браўншвэйскай. Гэта значыць, што атрымліваецца менш адкідаў. Заслугоўвае ўвагі беларуская капуста і праз тое, што яна добра шаткуецца і маючы вельмі цьвёрдыя, як кулак, качаны, яна добра захоўваецца, як для высадак, так і для карыстаньня сьвежаю ў зімовы час. Па смаку яна ня ўступае Браўншвэйскай.

Што датычыцца да капуснай кілы, аб якой пісаў аграном Л. Раўда (гл. „Плуг" № 12 за 1925 г.), дык у саўхозе капуста „Мароза" ею не хварэла, калі яна была высаджана на полі, а не на гародзе. Да гэтага часу на Мсьціслаўшчыне, дзе гародніцтва займае, дзякуючы добрай глебе, значнае месца, аб беларускай капусьце ніхто і нічога ня чуў. Але з гэтага году гэты сорт тут будзем пашыраць, выпісаўшы насеньне ад Я. Мароза. А ў будучым годзе будзем мець сваё насеньне, бо некалькі соцень лепшых качаноў захованы намі на насеньнікі.

Раім чытачом „Плуга" спрабаваць гэты сорт капусты. Маю надзею, што тады высеў беларускай капусты будзе ў больш значным ліку, чым гэта было да гэтага часу.

Агр. **Л. Калер.**

# Падкормка пчол зімовай парой.

У першай палове зімы пчолы ўжываюць вельмі мала мёду, калі пчолы зімуюць у спэцыяльным амшаніку ці добрым склепе з тэмпэратурай ад 3—6° па R і маюць пры гэтым патрэбную колькасьць сьвежага паветра. Пчолы больш чым чалавек, асабліва пад вясну адчуваюць патрэбу ў сьвежым паветры. Калі мёд у іх вульлі добрага сорту, дык у месяц на сярэднюю сям'ю выйдзе прыблізна каля 2 фун. мёду. Пчолы ў такім разе будуць есьці толькі для падтрыманьня свайго жыцьця. Пчолы-ж, якія зімуюць на дварэ павінны есьці болей, каб захаваць у вульлі патрэбную колькасьць цяплыні, якая ствараецца за кошт зьедзенага мёду. Вось чаму першую палову зімы лёгка перажываць нават сям'і з малымі запасамі мёду.

У другой палове зімы, трохі раней ці пазьней, у залежнасьці ад розных прычын, матка пачынае кладку яек. З гэтага часу канчаецца зімовы спакой і пачынаецца праца сям'і па вырашчваньню дзетак. Праца гэта ўсё павялічваецца з набліжэньнем вясны. Прапарцыянальна гэтаму расьце колькасьць зьядаемага мёду, цяпер ужо і на харчаваньне дзяткі і на тое, каб падтрымліваць у вульлі высокую тэмпэратуру (зімовай парой тэмпэратура ў вульлі падтрымліваецца ў 10°, а пры вывядзеньні дзяткі яна падымаецца да 28° па R). Пчолы хутка зьядаюць увесь мёд і часта здараецца так, што яны гінуць перад самым вынасам з памяшканьня.

Той хто любіць пчол, хто хоча мець ад іх карысьць, той забясьпечыць іх яшчэ з лета харчамі ў патрэбнай колькасьці (досьледы паказалі, што чым больш маюць пчолы мёду вясной, тым большы прыбытак дадуць яны летам). Але бывае, што і ў клапатлівага гаспадара пчолы пойдуць на зімоўку з малымі запасамі мёду і гінуць толькі таму, што гэты пчаляр ня ведае, як дапамагчы ім. А між тым пчол магчыма падхарчаваць і зімой.

Найлепшым кормам зьяўляецца ўжо гатовыя рамкі з мёдам, пасьля густы сеўшы мёд і ўрэшце цукар. Дзеля гэтага лепш усяго раніца па расьсвеце (замечана, што ў гэты час пчолы найбольш спакойныя), або ноччу ўносяць у цёплае памяшканьне і пры слабым сьвеце лямпы адчыняюць зьверху частку гнязда. Пры гэтым трэба ўважліва сачыць за тым, каб сьвятло ня трапіла непасрэдна на самых пчол. Лепш усяго завярнуць у зялёную паперу, бо пры такім сьвеце пчолы зусім ня будуць неспакоіцца. Адсунуўшы ўсе пустыя рамкі, і заўважыўшы першыя пчолы, трэба паставіць, сагрэтую да тэмпэратуры, якая звычайна стаіць у пакоі, рамку з пячатным мёдам. Карысна пры гэтым зьняць пакрыцьце з мёду, зрабіўшы дзірачку прыблізна на пятак велічыні. Пасьля гэтага зноў прыставіць адну пустую рамку і вынесьці вулей на старое месца.

Калі даецца густы сеўшы мёд, а даваць можна толькі ад сваіх здаровых пчол ці купляны на вядома-здаровай пасяцы, дык трэба завярнуць яго ў паперу з часта паколатымі дзіркамі і палажыць зьверху па рамках над цэнтрам клубка і, прыкрыўшы зьверху якой-небудзь картонавай каробкай унесьці вулей на месца. Калі-ж даецца цукар, дык лепш усяго браць кружкамі, макаюць іх у ваду і класьці пчолам. У крайнім-жа выпадку можна даваць просты кавалкавы цукар, але вялікімі кавалкамі і таксама абмачыўшы ў вадзе. З пяску-ж цукравага трэба згатаваць лядунец, досыць цьвярды, але ня хрусткі і даваць яго таксама як і цукар з вадой. Гэты харч кладзецца на картон

такім-жа чынам, як мёд. Калі кавалкі вялікія, дык можна класьці іх на рамкі без падкладкі.

Калі пчолы зімуюць у амшаніку, дык усю працу магчыма зрабіць на месцы, але з вялікай асьцярогай. З калодкамі-ж робіцца так: раніцай ці ў дзень уносяць калоду ў цёплае памяшканьне (5—6° па R), а ўвечары, калі сьцямнее, кладзецца харч. Калі даецца густы мёд, або цукар, трэба зьмясьціць яго пад самай сушшу. Калі здарыцца так, што суш з восені ня была падрэзана і пчолы знаходзяцца высока, трэба з вялікай асьцярогай, каб ня грукаць і не патрывожыць пчол, выразаць магчыма бліжэй да клубка, прыблізна на сярэдзіне пласта. У гэта пустое месца спачатку трэба накласьці сена, пакрыць яго палатном і на яго палажыць харч.

Калі няма нічога іншага, можна пакарміць і рэдкім харчам—сагрэтым мёдам ці цукровым сіропам, згатаваўшы яго на лёгкім агні з 2 частак цукру і аднэй часткі вады. Корм гэты даецца ў якой-небудзь пасудзіне, пакрыты зьверху нарэзанай саломай. Яго ставяць як і густы мёд у вулей і, каб прывабіць да яго пчол, трэба ў пасудзіну пакласьці тоненькую трэсачку (спачатку абмачыўшы яе ў мёд) так, каб другі канец яе падыходзіў да пчол. Трэсачка гэта будзе як масток для пчол. Звычайна пчолы пачынаюць браць падхарчоўку пры 5-6° цяплыні па R у памяшканьні, дзе стаіць калода, калі-ж не бяруць, дык трэба трохі падняць тэмпэратуру. Пасьля таго, як пчолы будуць падхарчованы, пасудзіну з рэдкім кормам вымаюць і калоду выносяць на старое месца. З цьвярдым-жа кормам калода выносіцца пасьля таго, як пчолы пачнуць браць харч.

Калі работу гэту зрабіць хутка, бяз лішняга шуму, дык яна можа даць вельмі добрыя вынікі. Ва ўсякім разе зрабіць яе трэба, калі пчолам пагражае сьмерць.

**Ліванскі.**

---

## Пытаньні і адказы па зямельных справах.

**Пытаньне 95.** Ці могуць прадаўжаць карыстацца зямлёй надзяляемыя грамадзяне, якія дапушчаны былі да карыстаньня райземкамісіяй на падставе ўвагі да арт. 204 зям. код., калі пастанова райземкамісіі адменена была акрземкамісіяй і справа зварочана дзеля перараскладаньня праэкту.

**Адказ.** На падставе ўвагі да арт. 204 зям. код. раённая зямельная камісія магла дапусьціць папярэдняе выкананьне свайго рашэньня толькі па справе аб адабраньні лішкаў з карыстаньня буйнае гаспадаркі і разьмеркаваньні іх сярод патрабуючых зямлі грамадзян. Калі адабраньне гэтае зроблена было з карыстаньня паасобных гаспадарак з разьмеркаваньнем абрэзкаў зямлі, прычым раённая зямельная камісія дапусьціла па справе папярэдняе выкананьне, а акруговая зямельная камісія адмяніла земляўпарадчы праэкт і пастанову райземкамісіі дзеля перараскладаньня праэкту, дык грамадзяне, якія надзелены зямлёю з абрэзкаў буйнае гаспадаркі, маюць права па арт. 17 Палажэньня аб Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю прадаўжаць карыстацца атрыманай зямлёй аж да зацьвярджэньня акруговаю зямельнаю камісіяй зямельнага земляўпарадчага праэкту.

---




## Таварыства „Чырворны будынак“.

З боку некаторых сялян можна чуць такую скаргу, што ўлада мала дапамагае беднаце. Але-ж гэта няпраўда, дзяржава дапамагае ўсім, калі гэта неабходна і магчыма. Вядома, ня будзе яна раздаваць кожнаму беднаму па 100 руб. Гэта-ж тады ўлада ня справіцца даваць грошы.

Кожны раён, а часта і сельсавет мае сваё багацьце, напрыклад, тарфяныя балоты, гліну, смалу ці інш, толькі ня ўсюды гэтыя багацьці скарыстоўваюцца. Сялянству неабходна зацікавіцца пытаньнем аб скарыстаньні багацьця, якое знаходзіцца ў іх вёсцы ці раёне, падлічыць яго колькасць і згуртавацца для распрацоўкі. Трэба толькі праявіць сваю актыўнасьць, арганізавацца некалькім гаспадаркам, ды адчыніць т-ва. Тады дзяржава дапаможа чым толькі можа і грашмі і прыладамі. Вось прыклад, як бедната вышла з беднасьці і як дапамагае Дзяржава: у Рагачоўскім раёне, Цікінскага с-с., сяляне арганізавалі т-ва пад назвай „Чырвоны будынак“ для выпрацоўкі цэглы і чарапіцы. Гэтае т-ва арганізавалася ў 25 годзе з некалькіх бедных гаспадароў і аднаго багацея, які дапамагаў грашыма (вядома за процант).

Спачатку т-ва было слабое, але дзякуючы таму, што ўсе сябры самі сваімі сіламі працавалі, яно хутка ўзрасло. Зараз т-ва яднае 22 гаспадаркі, з якіх 16 бядняцкіх і 6 серадняцкіх. Багацей вышаў з сяброў, бо працаваць ня ўмеў.

Адразу пай быў па 21 руб., але ніхто ня клаў чыстымі грашыма, а адпрацоўваў і гэта залічалі ў паі. Цяпер хочуць, каб пай быў 50 руб. Дзяржава дапамагае т-ву крэдытам: у Акрсельбанку т-ва ўзяло 1000 р. і ў Рагачове таксама тысячу. Крэдыт узят з рассрочкай на 3 гады.

У мінулым годзе ўжо выпрацавалі каля 50 тысяч штук цэглы і некалькі тысяч чарапіцы. Прадаецца цэгла па 4 р. 50 к. за сотню, а сырэц—ад 1 р. 50 к. да 2 р. Такім чынам ужо пачынае зьяўляцца свой капітал. У гэтым годзе т-ва думае пашырыць сваю вытворчасьць, дзеля чаго зьбіраецца купіць машыну і прырабіць цыркулярку. У цяжкі час, гэта вясною, калі хлеб быў дарагі ды цяжка было дастаць, т-ва зьвязалася з коопэрацыяй, дзе кожнаму сябру адпускалася па некалькі пудоў мукі.

Вось гэты прыклад паказвае, якім чынам можна палепшыць сваё жыцьцё бедняку. Некаторыя скажуць: добра, калі ў вас ёсьць гліна, а ў нас няма. Праўда, у нас ёсьць гліна, а ў вас ёсьць тарфяное балота, смала, малако ці інш. Можна аб'яднацца для распрацоўкі торфу, пабудаваць смалакураны завод, альбо адчыніць малочную арцель. Толькі ня трэба чакаць пакуль хто-небудзь зробіць, а самім патурбавацца. Арганізавацца пяці-дзесяці гаспадаром і адчыніць тую ці іншую арцель альбо т-ва, Дзяржава дапаможа і гэтакім чынам можна выйсьці з цяжкага становішча.

Г. Шумілаў.

---




## Зьбіраньне і захоўваньне насеньня лясных дрэў лісьцяных парод.

*Дуб.* Насеньне дубу, жалуды дасьпяваюць, прыблізна, у канцы верасьня, пасьля чаго яны хутка пачынаюць ападаць. Ападаньне жалудоў пачынаецца да наступленьня іх сьпеласьці, але гэта ападаюць папсаваныя і іх зьбіраць ня варта. Значнае ападзеньне здаровых жалудоў пачынаецца пасьля першых асеньніх замаразкаў.

Сабраныя з зямлі жалуды неабходна падсушваць, рассыпаўшы іх пад страхой. Да пачатку пасеву дубу ўвосень прасушаныя жалуды ссыпаюць у невялікія кучы, якія трэба хаваць ад макраты, падмерзаньня і мышэй. У кучах жалуды могуць увосень ляжаць ня больш, як 3-4 тыдні, пасьля чаго пачынаюць усыхаць і траціць усхожасьць.

Калі ўвосень высеў жалудоў зрабіць нельга, дык неабходна захоўваць іх да веснавога пасеву. Каб за зімні час жалуды не пасохлі, не памерзьлі і ня страцілі ўсхожасьць, іх неабходна захоўваць адмысловымі спосабамі. Але ёсьць і простыя спосабы, якія даюць здавальняючыя вынікі. З імі я і пазнаёмлю чытачоў. Заўважым спачатку, што належыць хаваць толькі добрыя жалуды, для чаго перад складаньнем на зіму неабходна рабіць ім адбор. Адбор добрых жалудоў робіцца гэтакім чынам: у цэбар ці ў бочку наліваюць вады больш палову і патроху сыплюць туды жалуды. Добрыя жалуды патонуць, а папсаваныя і няпоўныя ўсплывуць на паверхню вады, чаму іх і лёгка тады адкідваць. Але трэба мець на ўвазе, што разам з добрымі асядаюць на дно і жалуды пагрызяныя мышамі, раздушаныя пры зьбіраньні, пакрытыя плесяньню і г. д. Гэтакія жалуды неабходна выкідваць, бо пры захаваньні яны загніваюцца і ад іх загніваюць і здаровыя.

Для частковага аблясеньня дубам аднаго гэктару лясное плошчы (рэшта можа аблясіцца самасевам іншых парод) патрэбна захоўваць ад 48 да 80 кілёграм (3-5 пуд.) адборных жалудоў. Для гусьцейшых пасеваў жалудоў патрабуецца болей.

Лепш усяго захоўваць жалуды ў скляпох, дзе яны не памерзнуць узімку. Для гэтага робяць скрынкі ці бяруць бочкі і ставяць іх у склеп на высокіх падкладках*) Падкладкі забясьпечваюць жалуды ад лішняе вільгаці зьнізу і падыходу мышэй. На дно пасудзіны насыпаюць у 8-12 сантымэтр. таўшчынёю (прыблізна 2-3 вярш.) сухога чыстага чвыраватага пяску, паверх пяску насыпаюць тоўшчу жалудоў

*) Проф. А. Соболев—Краткое наставление по сбору и хранению желудей.

вышынёю у 8-12 сантымэтр, потым зноў пяску і гэтак перамяжаюць да паверху пасудзіны. Паверх усяго насыпаюць тоўшчу пяску ў 20-25 санцымэр.

Там дзе ёсьць магчымасьць, жалуды можна хаваць у вадзе. Адсартаваныя жалуды пакуюць у лазовыя кашы, якія шчыльна закрываюць і на вяроўках апускаюць у сажалкі, вазёры ці рэчкі на глыбіню, да якой зімою не даходзіць мароз. Гэтакі спосаб захоўваньня дае вельмі добрыя вынікі,*) але мае тыя нявыгады, што ў часе паводак іх прыходзіцца вымаць і да пасеву хаваць без вады, праз што трудна захаваць здаровымі.

Жалуды можна хаваць і на месцы ў лесе. Дзеля гэтага выбіраюць больш вышэйшае і сухое месца, рассыпаюць жалуды пластам у 6 санцымэтр. (каля 2 вярш.), пакрываюць яловымі лапкамі, паверх лісьцямі і, злёгку, зямлёю. Для забесьпячэньня ад мышэй месца абкапваюць раўком з адвеснымі бакамі.

Вясною, калі жалуды пачынаюць прарастаць, а высяваць іх чаму небудзь нельга, дык жалуды прыкопваюць сьнегам, а сьнег пакрываюць саломай, каб скора ён не раставаў.**)

Незапяскованыя жалуды, якія зімуюць у будынку, папершае, перамярзаюць і, падругое, высыхаюць, праз што страчваюць усхожасьць. У высахшых жалудоў, скура адстае і трашчыць, калі іх ціскаць у пальцах. Такія жалуды да пасеву ня годны.

*Ясень.* На Беларусі разводзіцца ясень звычайны, які сустракаецца ў нашых лясох і ясень амэрыканскі, які разводзіцца ў садох, парках, прысадах і г. д., расьце шпарка і ня баіцца падмарозкаў.

Насеньне ясеня ёсьць крылаткі, у канцы якіх знаходзіцца само семя. Добрае семя, калі яго разламаць, дык на смак горкае і мае сінявата-белы колер. Крылаткі дасьпяваюць у канцы верасьня і пачатку кастрычніка. Пасьпяваньне пазнаецца па сьветла-бураму колеру, які прымаюць крылаткі. Сьпелыя крылаткі застаюцца доўга на дрэве, а таму яго можна зьбіраць у глыбокую восень, і нават у першую палову зімы. Насеньне зьбіваецца шастом, ці проста зрываецца з дрэва. Сабранае насеньне падсушваюць на вольным паветры, рассыпаўшы тонкім пластом пад страхой. Калі высеяць ясень увосень, дык усходы зьявяцца на вясну. Ня высеяны ўвосень ясень неабходна на зіму прыкопваць у раўкох. Насеньне, перазімаваўшае ў раўку, калі вясною будзе пасеяна, дык ўзойдзе цераз некалькі тыдняў, а калі насеньне на зіму не закапвалася (не стаціфіцыравалась), а хавалася ў будынку, дык пасьля вясеньняга пасеву дае ўсходы толькі церез год у наступную вясну.

*Ясень амэрыканскі* мае вузейшую крылатку, чым ясень звычайны. Час і спосаб зьбіраньня насеньня тыя самыя, што і звычайнага ясеня. Прыкопваць насеньне няма неабходнасьці; бо яно ўсходзіць, калі правісіць зіму ў мяшку пад дахам. Пасьля пасеву вясною ўсходзіць цераз 4-5 тыдняў.

*Граб.* Насеньне граба таксама з крылцамі, пасьпявае ў кастрычніку і доўга застаецца на дрэве. Лепш зьбіраць пасьляападаньня лісьцяў. Неабходна прасушваць, як і насеньне звычайнага ясеня. Пасьля прасушкі насеньне ў руках пераціраюць, дзеля аслабадненьня ад кры-

*) А. П. Молчанов—Краткий историч. очерк. лесо-мероприятий с 1843 по 1894 г.
**) И. Лазарев. — Способ хранения желудей.

латак. Пры асеньнім пасеве граб усходзіць вясною. Пры вясеньнім пасеве, не закопанае на зіму ў зямлю, усходзіць цераз год на другую вясну.

*Бяроза.* Насеньне бярозы вельмі маленькае з невялічкімі крыльцамі паабапал. Знаходзіцца яно ў жаночых сярожках. Жаночыя сярожкі вісяць па аднэй з бакоў галінкі. Мужчынскія-ж сярожкі на той самай бярозе сядзяць ад аднэй да трох штук разам на канцох галінак. Жаночыя сярожкі зьяўляюцца вясною, а мужчынскія, у адзнаку ад першых, зьяўляюцца ўвосень і зімуюць на дрэве. Гэту адзінку карысна ведаць пры сачэньні за дасьпяваньнем насеньня.

Насеньне бярозы дасьпявае ў другой палове лета і зараз-жа за дасьпяваньнем пачынае асыпацца. З гэтае прычыны неабходна сачыць за зьменай колеру жаночых сярожак. Як толькі зялёныя сярожкі пачынаюць бурэць, а гэта бывае ў ліпені-жніўні месяцы, дык неабходна пераканацца ў сьпеласьці насеньня. Дзеля гэтага трэба спрабаваць ламаць сярожку ў пальцах. Калі пры ламаньні сярожка ня крышыцца, значыць насеньне яшчэ не дасьпела, а калі хоць трохі пачынае крышыцца, дык неабходна зараз-жа распачаць зьбіраньне насеньня. Для гэтага зразаюць галінкі з сярожкамі, вяжуць іх у пукі і разьвешваюць у будынку дзеля высушваньня і дасьпяваньня насеньня. Цераз тыдзень-другі, калі лісьце на пуках добра засохне, насеньне абтрасаюць над скрынкай ці дзяругай. Далей насеньне абчышчаюць ад лісьця і галін, а затым рассыпаюць яго па палу ў адрыне тонкім пластом (4—6 сантымэтр.) для прасушкі і дасьпяваньня. Пасыпанае насеньне трэба мяшаць па 2 разы на дзень. Цераз тыдзень насеньне годна дзеля пасеву. Пасеў належыць рабіць зараз-жа пасьля збору насеньня ці рана вясною. Зімою насеньне можна захоўваць у скрынках, дзе слой ад слоя насеньня ў 4—6 сантымэтр. (каля 1—$1^{1}/_{2}$ вярш.) перакладваецца 2-3 лістамі прамакацельнай паперы. Скрынку ставяць у сухое месца.

*Клён.* Мы зьвернем увагу на востралісны клён, які звычайна сустракаецца ў нашых лісьцяных лясох. Насеньне яго складаецца з двух зрошчаных паміж сабою крылатак. Дасьпявае ў верасьні-кастрычніку. Адзнака сьпеласьці—буры колер. Зьбіраюць і хаваюць насеньне, як і насеньне звычайнага ясеня. Пры васеньнім пасеве ўсходзіць на вясну, пры вясеньнім, калі насеньне не прамарожана закопаным, усходзіць праз год.

*Ліпа.* Насеньне ліпы—усім вядомы арэшак, які дасьпявае ў кастрычніку-лістападзе і застаецца на дрэве амаль што на ўсю зіму. Па дасьпяваньні насеньне зьбіраюць з дрэва, альбо ўжо апаўшае з-пад дрэва. Насеньне на зіму неабходна прыкопваць, бо ня прыкопанае насеньне, пры вясеньнім пасеве, усходзіць цераз год.

*Вольха чорная*, што расьце каля вады, на балоце, мае насеньне арэшкі. Арэшкі акругляны крылкам і знаходзяцца ў невялічкіх шышачках. Дасьпявае насеньне ў верасьні-кастрычніку м-цы. З дрэва зразаюць галінкі з шышачкамі і разьвешваюць у цёплым будынку; калі шышачкі пачынаюць раскрывацца—іх вымалочваюць. Насеньне вольхі высяюць увосень. Калі гэта зрабіць немагчыма, дык сабраныя шышачкі ляпей за ўсё падвесіць у мяшку дзе-небудзь пад страхою. У канцы сакавіка і пачатку красавіка м-цы шышачкі сушаць, для чаго можна падвесіць да столі над печкай. Як толькі шышкі раскрыюцца, тады іх можна вымалочваць. Сеюць вольху зараз-жа, як толькі выпадзе сьнег.

**К. Міран.**

# Сушка хваёвых і яловых шышак для здабычы насеньня.

Кожны гаспадар імкнецца засеяць сваю палоску добрым, чыстым насеньнем, бо добра ведае, якія ад гэтага будуць вынікі. Калі-ж мы прыгледзімся да жыцьця лесу, дык убачым, што і ён вымагае ад сваіх гаспадароў таго-ж самага. Гэта-ж датычыцца і да лясоў мясцовага значэньня, дзе цяпер кіраваць гаспадаркай павінны самі сяляне. Больш каштоўнымі ляснымі пародамі на нашы будаўляныя патрэбы зьяўляюцца хвойка і елка. Глебавыя ўмовы ў большасьці выпадкаў у лясох мясцовага значэньня таксама спрыяюць росту гэтых парод. Вось чаму карысна ведаць, як здабыць для іх пасеву добрае насеньне.

Плады гэтых парод вядомыя ўсім шышкі, якія пад сваёй лускою зьмяшчаюць крылатае семя. Сьпеюць шышкі хвоі такім чынам: Красуе хвоя ў маі м-цы, а шышкі пасьпяваюць толькі праз 18 м-цаў увосень наступнага за красаваньнем году.



Хвоі, якія вырасьлі на свабодзе. (Асіпавіцкі раён).

Сасновыя шышкі трэба зьбіраць зімою ў сьнежні, студзені і ў лютым м-цах, карыстаючыся пераважна сьсечанымі на лесасеках дрэвамі. Ніколі ня варта зьбіраць апаўшых на зямлю шышак, бо яны пустыя. З іх насеньне або ўжо высыпалася, альбо яны хворыя. Каб шышкі раскрыліся, іх трэба высушыць. Сушаць у нас сяляне шышкі звычайна так: сыплюць іх у мех і кладуць на зыркую печ альбо сыплюць проста ў печ. Трэба ведаць, што пры тэмпэратуры вышэй 50° насеньне падгарае і псуецца, чаму на печ пад мяшок неабходна падкладаць дошкі. Час ад часу шышкі ў мяшку перамешваюць, каб насеньне высыпалася. Выпаўшае з шышак насеньне трэба аддзяліць ад крылцаў, дзеля чаго ссыпаюць іх у торбу і абмалочваюць цэпам, а пасьля гэтага веюць. З пуда шышак абезкрыленага насеньня хвоі выходзіць $^{1}/_{2}$ фун., а елкі каля 1 фун. У адным фунце хваёвага насеньня зьмяшчаецца каля 60 тысяч каліў, а ў фунце яловага 65—70 тыс.

Для засеву дзесяціны лесу патрэбна насеньня хвоі каля 4 фун., а елкі каля 5 фун. Усхожасьць насеньня хвоі 80—90 проц., а елкі 80—85 проц., якая пры добрым захаваньні ня зьніжаецца ў працягу двух

гадоў, а наогул усхожасьць насеньня нашых хваёвых парод ня губляецца да 4-5 год.

Сушыць на печы насеньне можна толькі тады, калі трэба дастаць мала насеньня—1-1½ фун. Калі-ж нам трэба абсемяніць некалькі дзесяцін лесу, дык патрэбна сушыць дзесяткі пудоў, што на печы ня вельмі спадручна. Для гэтай мэты ў Заходняй Эўропе існуюць вельмі добра абсталяваныя буйныя насеньня-сушні, дзе шышкі сушацца пры дапамозе цёплага сухога паветра. У некаторых лясьніцтвах Беларусі ёсьць агнядзейнічаючыя сушні. Ужываюцца таксама і сушні дзе награваньне шышак вытвараецца сонцам. Пабудаваньне такой сушні вельмі простая справа. У скрынцы 2-3 арш. даўжыні, 1½-2 арш. шырыні і ў глыбіню 7-8 вярш. робіцца падвойнае дно. Верхняе дно з драцяным сітам, а сподняе цэльнае з дошчак, альбо з палатна, якое прымацоўваецца да краёў скрынкі. Драцяное сіта павінна быць такім, каб шышкі не правальваліся, а сыпалася праз яго толькі насеньне. Яно павінна высоўвацца, як шуфляда, калі сподняе зроблена нярухомым.

Такая сушня робіцца на ножках і ставіцца каля будынку з паўднёвага боку. На драцяное дно сыплюць шышкі ня вышэй ⅓ часткі глыбіні скрынкі, разьлічваючы на тое, што пры раскрыцьці шышкі павялічваюцца ў аб'ёме прымерна ў 2½ разы. Сушка аднае засыпкі працягваецца каля 4-х сонечных дзён.

Для павялічэньня награваньня да скрынкі можна прыладзіць века, якое трэба мяркаваць ставіць так, каб яно адбівала сонечныя праменьні на шышкі. Сподні бок века фарбуюць белай фарбай, а ўнутранасьць скрынкі чорнай. У пахмурнае дажджлівае надвор'е, а таксама нанач, каб шышкі не адмякалі, века трэба зачыняць. Ад сонца шышкі пачнуць расчыняцца і насеньне высыпаецца на сподняе дно ці на палатно. Каб лепш гэтага дасягнуць, неабходна час-ад-часу шышкі перамешваць граблямі.

Пры гэтым спосабе сушка ідзе ня хутка, але затое атрымліваецца вельмі добра ўсхожае насеньне. Асабліва такая сушня добра для яловых шышак, якія расчыняюцца хутчэй, чым хваёвыя.

У заключэньне хачу адзначыць, што хваёвым шышкам шкодзіць доўганосік (Pissodes varidirostris Syll) ці так званая шышкавая смалёўка. Яна кладзе свае яйкі ў адналетнія шышкі, адзнакай чаго на мясцох адлажэньня яек выступае смала. Яловым шышкам шкодзіць так званы яловы шышкаед (Anobieme abietis Far). На шышках тады зьяўляюцца плямы, а паміж лускамі выступае смала. Хворыя шышкі трэба зьнішчыць—спаліць.

**М. Ш.**

---

# С.-г. хроніка.

### Дзяржаўная дапамога насельніцтву ў БССР:

З 1-га кастрычніка 1926 г. па 1-е кастрычніка 1927 г. перадана ў сталае карыстаньне насельніцтва зямель ад дзяржземмаемасьці 88849 гэкт., з іх с.-г. колектывам 56443 гэкт. Апрача таго ў дарэмнае карыстаньне колектывам перадана маемасьці (будынкі, с.-г. інвэнтар, сады і інш.) на суму каля 3.205.000 руб.

З 1 кастр. 1926 г.—на 1 кастр. 1927 г. пераведзена на шматпольле:

| Назва пунктаў | Лік пунктаў | Лік гаспадарак | Плошча пахаці |
|---|---|---|---|
| Пасёлкаў . . . . . . . . | 895 | 11.316 | 68.894 гэкт. |
| Вёсак . . . . . . . . . | 121 | 4.027 | 19.198 „ |
| Колхозаў . . . . . . . . | 75 | 75 | 5.416 „ |
| Хутароў і атрубаў . . . . . | 3177 | 3.177 | 18.212 „ |
| Усяго . . | 4.268 | 18.595 | 111.720 |

**Пабудова масла-сыр заводаў у БССР.** К канцу 1927-28 опэрацыйнага году будзе існаваць 266 масла-сыр заводаў на БССР.

**Агнятрывалае будаўніцтва ў БССР.** 15-га студзеня адбылася ў Менску тэхнічная нарада па агнятрываламу будаўніцтву з прадстаўнікоў т-ва і акруговага тэхпэрсоналу.

**Дзяржстрахам адпушчан крэдыт** Белсельбанку ў суме 75000 руб. на снабжэньне т-в па агнятрываламу будаўніцтву цамэнтам і інш. матэрыяламі.

**НКЗ распрацован і ўнесен** у Саўнарком праэкт пераходу на агнятрывалае будаўніцтва для дзяржаўных устаноў, якія будуюцца ў сельскіх мясцовасьцях, а таксама і для сялян, якія атрымліваюць пазыкі на будаўнічыя патрэбы.

**Курсы па апрабацыі гатунковых пасеваў.** 1-га лютага пры Горацкай с.-г. Акадэміі адчыняюцца курсы па апрабацыі гатунковага насеньня. Курсы працягнуцца 1 месяц. Лік курсантаў 22 чалавекі.

**У гадавальніку Менскага** Коопэрацыйна-птушкаводнага т-ва, урочышча Антонава (гарадзкая чарта), а таксама ў гадавальніку Белсельтрэсту (Марыуполь) маюцца для разьмеркаваньня племянныя куры, гусі, качкі і індыкі розных парод. З 1-га сакавіка будуць адпускацца яйкі.

**Рахунковыя запісы ў сялянскіх гаспадарках.** Аддзелам Эканоміі Навукова-Дасьледчага Інстытуту ў 66 сялянскіх гаспадарках закладзены рахунковыя запісы. Усе сяляне, якія жадаюць завесьці рахунковыя запісы, павінны зьвярнуцца ў Аддзел Эканоміі Інстытуту (Менск, Шырокая вул. № 28, Н.-Д. Інстытут) за высылкаю неабходных сшыткаў і інструкцый. Праз год Аддзел Эканоміі распрацуе гэты матэрыял і дасьць вынікі тэй гаспадарцы, якая вяла запісы.

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Саф. Хоміч, Сьц. Тупяневіч.*

**ЦАНА 20 КАП.**

## Выданьні Наркамзема.

1. **Атабекянц.** Шляхі бэконізацыі сьвінаводзтва БССР, 1927 г. 32 стар. ц. — 15 к.
2. **Праф. Ліскун.** Агульная жывёлагадоўля. 1926 г. 140 стар. ц. — 70 к.
3. **Проф. И. Кулагин.** Красный Белорусский скот 1923 г. 18 стар. ц. — 5 к.
4. **Проф. Касаткин.** О почвах Белоруссии 1923 г. 18 стар. ц. — 10 к.
5. **Праф. Штэйнберг.** Практычнае гародніцтва 1924 г. 136 стар. ц. — 60 к.
6. **Я. Пачопка.** Як узгадаваць і даглядаць сад, 1023 г. 72 стар. ц. — 20 к.
7. **Л. Калікінскі.** Лубін і яго культура 1924 г. 40 стар. п. — 20 к.
8. **С. Н. Тупяневіч.** Спосабы барацьбы з кілою капусных расьлін, 1927 г. 32 стар. ц. — 25 к.
9. **С. Тупяневіч. і Заяц.** За лепшую сельскую гаспадарку. 1926 г. 78 ст. ц. — 28 к.
10. **М. Лайкоў.** Аб складаньні пераходных табліц на шматпольле, 1926 г. 20 стар. ц. — 25 к.
11. **С. Тупяневіч і А. Дзямідовіч.** Вывучэньне тэхнікі сялянскага ральніцтва, 1926 г. 28 стар. ц. — 25 к.
12. **А. Михайлов.** Очерк развития агрономической помощи в БССР, 1923 г. 28 стар. ц. — 10 к.
13. **П. Бойко.** Что должен знать переселенец о Д. Востоке и Сибири 1627 г. ц. — 25 к.
14. **З. Скоморохов.** Что должен знать крестьянин о лесе, 1925 г. 70 ст. ц. — 25 к.
15. **И Седашев.** Лесное хозяйство, 1923 г. 15 стар. ц. — 5 к.
16. **С. Ждановіч і Ярашчук.** Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі 1926 г. 140 стар. ц. — 70 к.
17. **Б. Бабицкий.** Производственные минимумы в крестьянском хозяйстве БССР 1927 г. 54 стар. ц. — 25 к.
18. Сельское хозяйство БССР и мероприятия по его восстановлению, 1925 г. 80 стар. ц. — 25 к.
19. **Л. Ивицкий.** Перечень действующего земельного законодательства, БССР 1927 г. 26 стар. ц. — 15 к.
20. Земельный кодекс БССР с узаконениями, правилами и инструкциями, 1927 г. 354 стар. ц. 2 р. 60 к.
21. **Проф. Пичетта.** История сельского хозяйства н землевладения в Белоруссии до конца XVI века. 1928 г. 180 стар. ц. 1 р. 80 к.
22. **Перспективный план НКЗ** на 1925—30 г. в выпусках; 1927 г. 960 стр. ц. 3 р. 55 к.
23. **А. Д. Дубах.** 1) Изменения профиля осушительных канав с течением времени. 2) Урожай трав на канализованном болоте. 3) Нарастание мха и торфа на болоте. 4) М. Л. Лейвиков. Рост сосны на канализованном болоте. 1926 г. 86 стар. ц. — 65 к.
24. **К. К. Киселев.** Водный режим реки Орессы. 1926 г. 40 стр. ц. — 40 к.
25. **В. Г. Касаткин.** Почвенная характеристика заболоченных пространств Белорусского Полесья 1926 г. 48 стр. ц. — 30 к.
26. **В. В. Адамов.** и **И. К. Ярошевич.** Обзор растительности Белорусского Полесья. 1927 г. 96 стр. ц. — 50 к.
27. **Н. С. Фролов.** Вопросы экономики мелиораций. 1926 г. 160 стр. ц. — 80 к.
28. **А. Д. Дубах.** Пути к уточнению проэктирования осушительных работ, 1927 г. 52 стр ц. — 30 к.
29. **Н. М. Савич.** Результаты гео-ботанических исследований в быв. Рогачевском уезде. 1926 г. 140 стр. ц. — 80 к.
30. **В. Г. Петровский.** Мелиоративные товарищества Белоруссии 1926 г. 150 стр. ц. — 55 к.

Заказ накіроўваць *Менск, Савецкая 71, Выдавецтва НКЗ.*